
Бяседа ў Барыку → 4-5

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714


Перапяліца ў Тапорках → 8

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 31 (3299) Год LXIV Беласток, 4 жніўня 2019 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Падляшскія зубраняты ў «Зубронку»



Дзеці з Падляшша адпачываюць на беразе возера Нарач у славутым Нацыянальным дзіцячым асветна-аздараўляльным цэнтры «Зубронак». Чаму славутым? Таму, што зараз тут знаходзіцца больш за тысячу дзяцей з адзінаццаці краін свету. Таксама таму, што часта яго наведваюць і ганарацца ім прадстаўнікі ўлады на чале з кіраўніком краіны Аляксандрам Лукашэнкам. І таксама таму, што як гавораць самі працаўнікі «Зубронка», гэта адзіны такога тыпу дзіцячы цэнтр ва ўсёй краіне. Сёлета спаўняецца яму 50 гадоў існавання, таму ў жніўні адбудуцца тут шумныя ўрачыстасці, на якія магчыма ізноў завітае кіраўнік дзяржавы.

**«ЗУБРОНАК» — САМЫ ЛЕПШЫ ДЗІЦЯЧЫ ЦЭНТР У БЕЛАРУСІ**

На 76 гектарах знаходзіцца тут 58 будынкаў. Можна сказаць, што гэта цэлы гарадок са сваім рэжымам жыцця. Магчыма невялікая частка абсталявання некаторых будынкаў памятае яшчэ часы Савецкага Саюза, але большасць аснашчана па-сучаснаму. Тут усё зроблена пад дзяцей: каля дзесяці месцаў для вогнішчаў, разнастайныя гойданкі, два стадыёны, басейн, цэнтр гульняў... нават бераг возера Нарач, над якім распаложаны «Зубронак», быў адмыслова перакапаны і зараз можна ісці ў возера сто метраў і не будзе больш чым паўметра вады.

Сёння гэта сучасны комплекс, у якім створаны не толькі ўсе ўмовы для адпачынку і аздараўлення. Як падкрэсліваюць працаўнікі «Зубронка», тут выкарыстоўваюцца аўтарскія метады гульнявых трэнінгаў па развіцці лідарскіх якасцей і творчых здольнасцей. За мінулыя 50 гадоў у лагеры пабывалі хлапчукі і дзяўчынкі з некалькіх дзясяткаў краін: Літвы, Кітая, Японіі, Індыі, Сірыі. Упершыню ў гэтым сезоне чакаюць дзяцей з Егіпта і В'етнама.

Магчыма тут хутчэй, чым у Мінску, можна сустрэць начальства краіны. З нашымі дзецьмі абмяняліся некалькімі беларускімі словамі намеснік прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Ігар Петрышэнка і міністр адукацыі Ігар Карпенка. Чыноўнікі пахвалілі дзяцей за веданне мовы і ахвотна пагадзіліся на супольны здымак.

**ПАДЛЯШСКІЯ ЗУБРАНЯТЫ НЕ ПАКІДАЮЦЬ МОВЫ**

Дзеці з Падляшша ўпершыню наведалі праслаўлены асветна-аздараўляльны цэнтр і было гэта магчымае дзякуючы Культурнаму цэнтру Рэспублікі Беларусь у Польшчы. З 25 ліпеня па 1 жніўня пабывалі яны ў «Зубронку», а затым з 1 да 3-га жніўня пераехалі ў Мінск. Прапанова была накіравана да вучняў, якія вывучаюць беларускую мову і гісторыю Беларусі. Багатая праграма, з якой можна было пазнаёміцца яшчэ да выезду, гарантавала шэраг спартыўных мерапрыемстваў, медычных працэдур, а таксама цікавых экскурсій па самых славутых месцах Беларусі. Такая экскурсія ва ўяўленнях настаўніц магла толькі станоўча паўплываць на матывацыю вучняў да вывучэння мовы. Аднак і гэтым разам не абышлося без пытанняў дзяцей, якія ўпершыню наведалі Беларусь. Напрыклад: чаму тут не гавораць па-беларуску? І гэта зараз пасля ўрачыстага адкрыцця новага сезона ў «Зубронку». Гэта было прафесіянальна падрыхтаванае мерапрыемства з нагоды адкрыцця чацвёртага ўжо летняга лагера ў асветна-аздараўляльным цэнтры. Танцоры, песні, падарункі, веласіпедысты са сцягамі, чалавек-зубронак і трактар МТЗ, які цягнуў вагончыкі з вясёлымі супрацоўнікамі цэнтра. Было шумна, весела. Вядучыя заахвочвалі дзяцей да супольнай забавы. На сцэне з'явіліся таксама падляшскія дзеткі. Настаўніца Анна Франкоўская падзякавала за запрашэнне беларусаў з Польшчы і павіншавала з юбілеем, а Вікторыя Гаць і Ева Іванюк праспявалі на два галасы песню «Купалінка» і «Ой выйду я». Яны былі адзінымі, чый выступ прагучаў на беларускай мове. Гэта ўразіла не толькі аднагодкаў, але і кіраўніцтва цэнтра. Дырэктар Надзея Ануфрыева сказала:





— Выдатна. Я спачатку не зразумела, хто гэта спявае, бо трохі затрымалася, ніколі не чула. Мне кажуць: «Гэта дзеці». На чысцюткай беларускай мове, так прыемна, дзякуй за падарунак.

— Я часта выступаю на розных мерапрыемствах, але тут крыху хвалявалася як яны прымуць нашы песні, — сказала Вікторыя.

— Файна, што мы мелі такую магчымасць, каб тут выступіць і крыху сябе паказаць другім, — сказала Ева. — Пасля першай песні я бачыла ўжо, што публіцы падабаецца наш выступ. Пасля зачапіў мяне адзін хлопец і запытаў ці я беларускамоўная. Я адказала, што так, але ён не мог паверыць, што я з Польшчы. Думаў, што беларуска, якая вывучае беларускую мову для сябе і зусім не адчуваў польскага націску, — расказвала Ева. — Мяне вельмі парадавалі яго словы.

— Я таксама ведаю моўную сітуацыю ў Беларусі, але ўсё-такі шкада, — дадала Вікторыя. — Беларусы маглі б прынамсі нешта праспяваць па-беларуску. Ну, шкада...

Вядучы мерапрыемства таксама падышоў да нашых дзяўчат, каб з імі паразмаўляць... на чыстай беларускай мове. Расейскамоўны пачатак летніка пракаментаваў адным сказам: „Шкада, толькі гэта магу сказаць".

**НЕ ЎСЁ ТАК СТРАШНА**

Якімі не былі б афіцыйныя выступленні, усё-такі дзеці з Падляшша адпачываюць над Нараччу і практыкуюць беларускую мову. Усе апекуны падляшскіх школьнікаў — беларускамоўныя. Марыя Саланенка ўпершыню працуе з дзецьмі з Польшчы і лічыць гэта цікавым вопытам.

— Нягледзячы на тое, што гэта блізкая да нас культура, ёсць і адрозненні. І гэта вельмі цікава назіраць. Мы стараемся разумець, стараемся размаўляць па-беларуску, каб дзецям тут было прыемна і камфортна з намі працаваць. Яны выкарыстоўваюць беларускую мову. Але некаторым складана, напэўна, яе ўжываць. Але гэта вельмі важна. Наша беларуская мова не знікала. Калі будуць такія адзінкі, то беларуская мова не знікне. У нас, на тэрыторыі «Зубронка» працуе таксама школа і мы маем настаўнікаў беларускай мовы, — расказвае Марыя. — Яны нават у нас пыталіся: «Тады чаму вы імі займаецеся, а не мы?». Мы не ведаем, якім чынам гэта ўсё здзейснілася, але вось так (*смех*).

Уладзіслаў і Каця таксама беларускамоўныя. Уладзіслаў сам з'яўляецца настаўнікам геаграфіі ў Мінску, а нарадзіўся на Падляшшы. Менавіта ён супольна з сяброўкай у народнай вопратцы сустракалі падляшскіх вучняў на мінскім вакзале караваем. Дзеці прызналіся, што яшчэ ніхто іх у такі спосаб нідзе не прывітаў і што даўно не елі так смачнай булкі. Хаця ўжо ў цягніку з Беластока ў Гародню пачалі ўплятаць пачкі чыпсаў і кабаносаў, а ў цягніку Гародня — Мінск быў з'едзены „сэнкач", які ехаў ажно з Бельска ў якасці падарунка.

(працяг будзе)

Тэкст і фота **Уршулі ШУБЗДЫ**





# Ахвяры плана

На мінулым тыдні слаўны беларускі горад Барысаў прагучаў не толькі сваім футбольным БАТЭ. Мясцовыя праваахоўныя органы раскрылі „злачынства”, якое мела проста фантасмагарычны і сапраўды гратэскавы характар. Вось кароткі пераказ гэтай трагікамічнай гісторыі. Чыгуначны ахоўнік з Барысава падрабляў афіцыйныя пастановы на адпаведных бланках, у якіх выпісваў прыдуманыя штрафы. Прыкладам, за пераход чыгуначных рэек у недазволеным месцы. Калі вы падумалі, што гэтую дробную афёру 55-гадовы мужчына ажыццяўляў з мэтай матэрыяльнай нажывы, то моцна памыляецеся. Выпісаныя фіктыўныя штрафы ахоўнік сам жа і...аплачваў. А прычына такой неадэкватнасці заключаецца ў тым, што кожнай службовай асобе ў абавязковым „парадку” даведзены адпаведны план па колькасці зафіксаваных правапарушэнняў. Незалежна ад таго, колькі было такіх правапарушэнняў і ці былі яны ўвогуле. Цяпер небараку ахоўніка, хоць ён ні ў каго не ўкраў ні капейкі, чакае суд і дастаткова жорсткае пакаранне. Вынаходлівага службоўца могуць пакараць нават двума гадамі турмы ўмоўна. Пішуць, што ўжо былі падобныя прэцэдэнты. Таму што яго вялікасць План яшчэ з савецкага часу, заўсёды вышэй і важней за лёс маленькага чалавека, які гэты план абавязаны выканаць і нават перавыканаць. Прычым кожнай цаной. Узгадайце хрэстаматыйнае і абсурднае „Даеш пяцігодку за чатыры гады!”. Зразумела, што ўсе гэтыя планы і разлікі на пяцігодкі былі фальшывымі, рапарты і справаздачы яшчэ больш падманнымі, але ж савецкі шчаслівы народ абавязаны быў свята верыць у іх, а таксама ў тое, што мы дагонім і перагонім Амерыку.

Такімі ж самымі былі планы па выкрывальнасці злачынстваў і правапарушэнняў, даведзеныя ўсім сілавым структурам, падаткава-фіскальным і многім іншым кантрольным органам. Прыкладам, калі ты насамрэч добры ўчастковы міліцыянт і на тваёй тэрыторыі зусім мала правапарушэнняў, то гэта не абазначае тваю добрую прафілактычную папераджальную працу. Наадварот, начальства за такую малую колькасць зафіксаваных правапарушэнняў дасць спярша моцнага прачуханца, а далей пойдуць яшчэ службовыя і штрафныя спагнанні. Ведаю асабіста некалькіх людзей, якія папросту не змаглі працаваць у такой дзікай і заганнай сістэме планавасці і звольніліся з міліцыі, не ў змозе выконваць штучныя і абсурдныя планы, фабрыкаваць цэлы час фальшывыя пратаколы.

„Планы партыі — планы народа” — яшчэ адзін лозунг, добра памятны тым, хто жыў у савецкі час. Уладныя кланы вельмі любяць трактаваць свае інтарэсы як штодзённы клопат пра людзей і асабліва пра будучыню гэтых людзей. Гэтая „светлая будучыня” — як вечны міраж, прывід для адурманьвання тых, хто сёння сваёй рабскай сляпой працай гатовы ўмацоўваць непахіснасць і непагрэшнасць „слугаў народа”. Таму планавасцю павінны быць прасякнуты ўсе сферы жыцця. Але прыходзіць час, калі планавыя лічбы даходзяць ужо да поўнага абсурду, калі адзін за адным здараецца пшык. Асабліва часта гэта здараецца ў эканоміцы, дзе нельга бясконца самападманвацца. Тады бальшавікі, якія і сёння кіруюць у Рэспубліцы Беларусь, шукаюць вінаватых. Такія вінаватыя ў іх звычайна прырода і нібыта сабатажнікі, „вредители”. Ва ўспамінах беларуская эмігранта Алеся Алехніка вычытаў днямі цікавую згадку: „Самым распаўсюджаным „апраўданнем” (у бальшавікоў) была „засуха”, і я сам чуў, як палітрук (Кірэйчык) аднойчы сказаў маме: „Вот, чёрт побери, куда бы мы не пришли — везде начинается засуха!”. А калі няўдачы эканомікі ўжо ніяк не спішаш на „засуху”, тады ідзе пошук „ворагаў народа”, паўстаюць адпаведныя планы — па раскулачванні, экспрапрыяцыі, высылках, перасяленнях, зняволеннях і ўрэшце расстрэлах.

„Ці ёсць у вас план, містар Фікс?” — перыядычна пытаў герой папулярнага анімацыйнага серыяла. У айчынных чыноўнікаў ёсць багата разнастайных планаў. Толькі вось бальшыня з іх зусім не эфектыўная, а хутчэй фікцыйная. „А дзе вашы графікі?” — запытваўся адзін бюракрат-персанаж з парадыйнай кінастужкі „Фантан” у адной са сваіх падначаленых. — „Якія графікі?”, — недаўменна перапытвала тая. — „Вось і падумайце, якія. Гэта ж так цікава!”.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Каварная пашча

Мой сардэчны сябра Янка Туронак, нашчадак годных беларусаў і, як ён жартуе, таксама працягвальнік згубленай генетычнай лініі гістарычных ятвягаў, мае вока. Не, не мае аднаго вока. Мае двое, прытым якіх зыркіх! У Янкі ёсць асаблівы дар бачання ў рэчах, якія здаюцца быць трывіяльнымі, таму што закрытымі хаосам паўтаральных узораў, іх асноўнай праўды. У кожнага клішэ ёсць усе рысы відавочнасці, а гэтай большасць людзей грэбуе. І вельмі дрэнна. Таму што тое, што паўтараецца, вядома, банальна, мае свой схаваны рытм, фразу і, нарэшце, сэнс. Трэба толькі мець набітае вока, каб убачыць гэта. І ў Янкі такое. І тое, што бачыць, ён фатаграфуе. Здымаючы, ён агаляе банал з яго неістотнага паўтарэння. Такім чынам раскрывае сутнасць банала — тое, што фактычна ёсць. Праўду і толькі праўду. Возьмем, для прыкладу, толькі адну фатаграфію Янкі. Ён прыслаў яе мне некалькі месяцаў таму. Здымак паказвае фронт нядаўна адрамантаванага будынка, які зусім невыпадкова стаіць у Беластоку. Да нядаўняга часу я быў перакананы, што мой родны і любімы горад знаходзіцца ў сучаснай Еўропе, спадчынніцы культурных і цывілізацыйных каштоўнасцей, вырослых з традыцыі грэка-рымскай старажытнасці і асвечанага хрысціянства. Як я памыліўся! Пасля апаганенага Марша роўнасці аказалася, што многія людзі хочуць, каб ён вярнуўся ў... Польшчу. Гэту Польшчу без ідэнтычнасці. Польшчу халопскую і калі-небудзь укранелую, дык толькі ў чарнасоценную ідэалогію і не абавязкова толькі з-пад знака фашысцкай фалангі, але і псеўдарэлігійнай і псеўдапатрыятычнай. У Польшчу, якая ёсць... нідзе, па словах аўтара «Караля Убу» Альфрэда Джары. І, дарэчы, рэкамендую прачытаць гэты твор усім тым, хто дыскусію лічыць вышэй чым аплёўванне.

Прыгожая ідэя Беластока, адкрытага на свет, дарэчы, Беластока, уважліва аднаўленага дзякуючы грашам ЕС, пачала разбурацца, што па-прароцку зняў Ян Туронак. Такім чынам, мы бачым на здымку фрагмент бліскучага жолаба і мармуровы карніз над акном. Да таго ж больш нічога. Толькі што прыгожа адбеленая тынкоўка побач з жолабам, верагодна, была знішчана праз некаторы час, выявіўшы пабітую, разбураную сцяну. Такая вось работа! Спачатку я гэтага не зразумеў, але калі ўважліва паглядзеў на контур гіпсавага дэфекту, я ўбачыў ... чалавечы твар. На самой справе, гэта была каварная пашча. Паршывая морда. Я звар'яцеў? О, барані Божа! Мозг чалавека лёгка знаходзіць вядомыя яму ўзоры, схаваныя сярод хаосу неадпаведных элементаў. Эвалюцыя так сфармавала яго. Аднак гэта не азначае, што ён тлумачыць іх правільна. Пляма ад кавы, пралітай на падлогу — гэта проста пляма. Дзірка ў тынкоўцы — проста дзірка. Мозг, аднак, гатовы бачыць у іх абрысах морду жорсткага бандыта або пашчу пражэрлівага цмока. Па-вучонаму такая схільнасць чалавечага мозгу да надінтэрпрэтацыі або перакручвання рэальнасці называецца парэйдаліяй. Гэта яго асноўная функцыя, і, напэўна, не толькі чалавечага мозгу, інстынкт якога для таго, каб выжыць любой цаной, працуе па прынцыпе: «змагайся, калі не можаш уцячы або ўцякай, калі не мусіш змагацца». Эвалюцыйна, другі варыянт больш выгадны. Лепш хукнуць два разы без патрэбы на халоднае, чым раз балюча апячыся.

Тое, што я згледзеў «морду» на сцяне будынка, сфатаграфаванага Янкам, нічога асаблівага. Некалькі гадоў таму значна больш агідная пашча зірнула з фатаграфіі Марса, апублікаванай агенцтвам NASA. Выява праз інтэрнэт абабегла амаль увесь свет, выклікаючы гарачку ў многіх яго карыстальнікаў. Цені на нераўнамернай паверхні планеты, адбітыя святлом аддаленага Сонца, былі ў форме твару падобнага чалавеку, з выразным абрысам носа, вялікімі вачніцамі і ротам у насмешцы. Некаторыя ўбачылі ў ім карыкатуру зямлян, якую на марсіянскай глебе, на плошчы некалькіх сотняў гектараў, злосна выразала чужародная і крытычная для іх цывілізацыя, іншыя ўбачылі мірнае пасланне спагадлівых іншапланецян. Хтосьці ўбачыў там твар Ісуса. Цікава, што ў той жа час Яго вобразы сталі масава з'яўляцца на падсмажаных тостах, на вокнах аўтамабіляў, на сценах кухняў і нават на разрэзе высечаных дрэў. Значная колькасць інтэрнэт-карыстальнікаў мела манію бачання ў абрысах храмаў... курыцы. Створаны нават інтэрнэт-сайт, прысвечаны гэтаму пытанню з больш за 40 тысяч назіральнікаў. Янка, фатаграфаваўшы дзірку, запісваючы морду на фатаграфіі, свядома абраў варыянт «змагайся!». І я больш не хачу ўцякаць, Янка!

Міраслаў ГРЫКА



Сваімі вачыма

# Даеду ці не даеду?

З успамінамі з «Басовішча» ў галаве з'ехаў я адразу ў сваю зону шчаслівасці, значыць, у бацькоўскі дом. Зразумела, каб не дапамога сябры ў падвозе пад хату на ягонай машыне, то справа выглядала б значна горш. Цяпер даехаць з Беластока ў прыпушчанскія вёскі не так і лёгка, а па-людску — проста катастрофа. Таму, пераступіўшы парог роднага дома, мой бацька адразу паставіў мне пытанне: «А ты знаеш як і на чым вернешся назад у Беласток?» На шчасце я супакоіў яго адказам, што ўсё ўжо вырашана з маім сябрам. Паспакайнелы бацька толькі тады пачаў мяне распытваць пра тое, што ў мяне чуваць.

Дарэчы, здавалася б, што ў больш цывілізацыйным напрамку, такім як пагранічны пераход у Баброўніках, заімчуся хутка на аўтобусе, але нядаўні артыкул Аляксандра Вярбіцкага на старонках нашага тыднёвіка паказаў абсалютную безнадзейнасць і на гэтым дарожным вектары. Проста — цывілізацыйнае выключэнне, а ў ім і тое камунікацыйнае, гэта хлеб наш надзённы. Таму чакаю, ці абяцаная ад жніўня ўрадавая праграма дафінансавання лакальных аўтобусных маршрутаў знойдзе сваё месца і ў нашых паветах. У 2019 годзе ўрад прызначыць на гэту мэту яшчэ 200 мільёнаў злотых, а ў 2020 годзе мае ўжо быць гэта сума 800 мільёнаў злотых. Такая штогадовая велічыня дафінансавання запланаваная ў бюджэце дзяржавы да 2028 года, — праінфармаваў міністр інфраструктуры Анджэй Адамчык. Паводле даных Галоўнай статыстычнай управы звыш трох мільёнаў дарослых палякаў штодзень даязджае на працы ў іншую гміну. А паводле статыстыкі Польскай акадэміі навук у мінулым, 2018, годзе ў маштабе краіны ўжо дваццаць шэсць адсоткаў салэцтваў пазбаўлены паслуг грамадскага транспарту. Калі ўлічыць патрэбы і школьнікаў, і дарослых, якія хочуць даехаць да лекара ці ў самаўрадава-дзяржаўныя ўстановы, праблема камунікацыйнага выключэння вырысоўваецца ў поўным маштабе.

Тут патрэбная таксама добрая воля і старанні лакальных самаўрадаўцаў, а ў маім выпадку проста неабходныя намаганні войта гміны Дубічы-Царкоўныя і старасты Гайнаўскага павета. Без іхняй добрай волі і фінансавага ўкладу немагчымым будзе пабачыць аўтобусы ў раёне Белавежскай пушчы. Згодна з законам неабходнай умовай для атрымання даплаты з дзяржаўнага бюджэту праз пасрэдніцтва дамовы з ваяводам, з'яўляецца сфінансаванне самаўрадам мінімум трыццаці адсоткаў дэфіцыту дадзенай аўтобуснай лініі. На жаль, ведаючы стан бюджэтаў нашых гмін, можам спадзявацца адмоўных рэакцый для гэтай ініцыятывы. Тут зараз вялікая роля так нядаўна выбраных радных, а канкрэтна таго, ці захочуць прыцiснуць яны сваіх войтаў і старастаў, каб рушылі сваімі шаноўнымі задніцамі ў справе паляпшэння сваім выбаршчыкам доступу да штодзённай камунікацыі з большымі цэнтрамі.

Да канца не зусім яснае і становішча самой камунікацыйнай фірмы ПКС. У кожным яе самастойным падраздзяленні зусім рознае эканамічна-тэхнічнае становішча. Калі ўзяць пад увагу тэрыторыю нашага ваяводства і абязлюдзенне часткі яго рэгіёнаў, то можна спадзявацца ціхай змовы з самаўрадаўцамі, каб не адкрываць аніякіх маршрутаў. Абодва бакі будуць карыстацца жалезна-лагічным аргументам, што вазіць толькі паветра, гэта выкідванне нашых падаткаў на вецер. Пра эфекты да канца гэтага года хіба трэба ўвогуле забыцца, бо войты і старасты выкруцяцца тым, што ў бюджэтах да канца гэтага года няма дадатковых сродкаў. Затым трэба спадзявацца, што толькі ў наступным 2020 годзе ў некаторых гмінах ізноў з'явяцца аўтобусы. Паглядзім, пабачым. Таксама палітычныя інтрыгі гэтага і наступнага гадоў напэўна пакладуць свой адбітак на рэалізацыю гэтага закона.

Задумаўся я над усім гэтым, калі вярнуўся ў сваю беластоцкую кватэру. Хіба ўсё ж такі застаецца мне невялікая надзея, што на грамадскім транспарце дабяруся на працягу бліжэйшага года ў родную вёску. За акном акурат прайшла вечаровая бура і выпаў доўгачаканы дождж. Палягчэла ў паветры і на сэрцы. Ну што ж, калі будзем жыць, то неяк прыплывем у сваю Ітаку.

Яўген ВАПА

# Жыровічы:
## аддыхацца ў святой цішыні (5)

Спачатку я палічыла яе апантанай, бязвольнай багамолкай. Яе вобраз застраг у галаве і не даваў доўга заснуць. У ім хавалася дзіўная загадка і нешта яшчэ больш. Слова «любоў» тут пранікала па-за абрысы свайго значэння і сэнсу. Яно хвалявала і адначасова натхняла, узбуджала сардэчны закалот. Мова пра старэчу-манашку з дзіцячым воблікам. У час багаслужбаў яна ўвесь час хадзіла па саборы і цалавала іконы. За кожным разам, нават калі яна цалавала адну ікону ўжо дваццаты раз, яе паморшчаны твар маладзеў і зіхацеў удзячнасцю. Гэта ўсё наклікала жывы крэатыў. За прыкладам старэчы цягнулі іншыя паломнікі. Старыя, малыя, маладыя — усе набожна цалавалі іконы, якія раней здаваліся непрыкметнымі. Ніхто не звяртаў увагі на мікробы, часцінкі ДНК. Наадварот, здавалася ў іх сумесі праяўляўся абярэг ад усякага зла і спакушэнняў свету. Пры нагодзе мацавалася любоў да людзей, грамадская сувязь...

У той жа час, калі я пабывала ў манастыры, мой рэдакцыйны сябра запісаў на камеру гасціну на беларускім Палессі. Прыём рыхтавала ўся вёска. Людзі прыносілі яду, дапамагалі гатаваць і пячы, разам будавалі настрой бяседы. Пасля, у час застолля, гаспадыня прыгожа дзякавала грамадзе. Яна падыходзіла да кожнага паасобку, абдымала і без лішніх слоў цалавала. У гэтым жэсце было сказана ўсё, ажно дрыжыкі бегалі па спіне...

* * *

Глыбокія і сардэчныя ўражанні наклікаў Акафіст да Жыровіцкай Божай Маці. Малебен служаць кожны будзень у 11:30. Гімн да Божай Маці, апякункі сялянскага народа, — як кажуць словы тэксту, — распавядае пра гісторыю з'яўлення і цуды. Адзін з жыровіцкіх цудаў гаворыць пра ўваскрэсенне з мёртвых нейкай Арыны. Дзяўчына, прадчуваючы свой хуткі канец, выпрасіла ў бацькоў, каб прывезлі яе ў Жыровічы. Бацькі выканалі жаданне, аднак у дарозе Арына памерла. Яе рашылі пахаваць у святой зямельцы. У час адпявання, якое зладзілі перад Іконай, дзяўчына нечакана ачуняла і ажыла. Яе ўваскрэсенне наклікала жах і адначасова разбудзіла яшчэ большы культ Іконы і славу месца...

Праўда, тое, што адбывалася ў перыяд царкоўнай уніі, праваслаўны акафіст не згадвае. Гэты няўручны прабел відаць простым вокам. Зірнуць хоць бы на архітэктуру сабора — базіліку, ці барочныя, вытанчаныя цэрквы і іх інтэр'ер. Перабудова Жыровіч у духоўным і матэрыяльным сэнсе адбывается на працягу XVII і XVIII стагоддзяў. У гэтым часе дзейнічае тут манастыр базільянаў, а праваслаўныя, найчасцей не па сваёй волі, прыпісаныя да грэка-каталіцкай канфесіі, падуладныя Рыму. Жыровічы — адметная кропка на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага. Месца называюць «Чанстаховай уніятаў». З пілігрымкамі і каштоўнымі дарамі прыязджаюць сюды каралі Рэчы Паспалітай. Ян III Сабескі прывязе ў падарунку нацыянальную каштоўнасць — шаблю ад пераможнай бітвы з мусульманамі пад Венай. Радзівілы, у сваю чаргу, прыаздабляюць ікону брыльянтамі. На ўсё гэта глядзіць Ватыкан, які ў рэшце рэшт адабрае ідэю каранацыі іконы. Прэстыж, слава, ікона ў кароне — усё гэта гістарычны міраж. Да гэтай спадчыны адклікаюцца адно грэка-католікі...

Каштоўныя дары, у тым ліку ікона з каронай, былі вывезены ў час бежанства ў Маскву і схаваныя ў падвалах сабора Васілія Вялікага, што на Чырвоным пляцы. Нягледзячы на ваенную завіруху і надыход ваяўнага атэізму, ікона ацалее. А яе вяртанне на радзіму напамінае чарговы цуд. У Жыровічы ікона вернецца ўжо ў 1921 годзе. Прывязе яе ў падручным чамадане Ціхан Шарапаў; епіскап схавае іконку ў слоік з варэннем.





* * *

У летні сезон, калі ў Жыровічы з'яўляюцца паломніцтвы з розных куткоў Беларусі, акафіст гучыць шмат разоў цягам дня, не толькі ў назначаны час. За кожным разам ён настолькі эмацыйны, шчыры, што даводзіць да слёз. У такія моманты я вандрую па лабірынтах памяці, пазначаных царкоўнымі абрадамі. Яшчэ адносна нядаўна Ікона З'яўлення Жыровіцкай Божай Маці, з дрэвам, пастушкамі і статкам авечак, была неад'емнай часткай інтэр'ера падляшскіх царкоўнак. Пра гэта вырашала не толькі геаграфічная блізкасць, але і ўдзячнасць духавенства. Многія з іх, перш чым сталі служыць у сваёй парафіі, атрымалі навукі ў Жыровіцкай духоўнай акадэміі. Гэтая акалічнасць спрыяла распаўсюду культу, народжанага ў знаёмай прасторы, падобным менталітэце, аднольkавым надвор'і. Усё тут да болю знаёмае, звычайнае і адначасова творчае, святое. Я сама, калі апынуся за ўсходняй мяжой, назіраю людзей. І зараз трывожыла адна акалічнасць. Я прыкмеціла сябе ў новым святле і ў новым месцы. Нешта змянілася ў маім назіранні бацькаўшчыны. Ці можа той трывожны камунікат гаварыў такое: няма ўжо тваёй старой бацькаўшчыны! Раней у выглядзе паломнікаў я «сустракала» сваіх продкаў, людзей запамятаных у часы вясковага дзяцінства. А зараз я глядзела на паломнікаў з Беларусі і параўноўвала іх да людзей з маёй беластоцкай парафіі.

Калі гэта ўсё адбылося, перамянілася?

(працяг будзе)

Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК

## На рэабілітацыйным аддзяленні — 2019 (3)

Пасля развітання з Уладкам у палаце настала цішыня, быццам замерз увесь свет. Рысек з Міркам у свабодны час гулялі па-за шпіталем, а я застаўся са сваім сябрам — камп'ютарам. 8 траўня на адвячорку сяброўка з суседняй палаты намякнула, што ў палату № 14 пасялілі новую пацыентку з сяла Чаромхі. Рашыў яе наведаць. Прывітала мяне сімпатычная прыгажуня Ірэна, пенсіянерка. Раней працавала яна кіраўніком цягніка. Абмяняліся навінкамі. Сяброўка скардзілася на праблему з рэгістрацыяй накіравання на Рэабілітацыйнае аддзяленне.

— Накіраванне атрымала я ў спецыялізаванай прыёмнай, — гаварыла Ірэна, — але з рэгістрацыяй была праблема. Чарга вялікая... кашмар.

У чацвер, 9 траўня, адбылася размова дырэктара з фізіятэрапеўтамі і рэабілітантамі. Справа тычылася аўторкавага пратэсту і патрабавання павышэння платы. Але ўсё скрывалася за заслонай таямніцы. Паколькі я быў дамоўлены з ардынатарам артапедычнага аддзялення на аперацыю калена, дык папытаў свайго шэфа, калі мне закончыцца рэабілітацыя. Гэты адказаў:

— Не спяшайце, на ўсё будзе час.

Пасля абеду наведаў мяне прыяцель з Бельска-Падляшскага Сцяпан Каляда, які прыехаў на інаўгурацыю фестывалю царкоўнай музыкі. Затым правёў я размову з сяброўкай Ірэнай. Гэтая наракала, што ёй запісалі надта мала рэабілітацыйных працэдур.

— Дык выяві свае хваробы лекару, — параіў я сяброўцы, — няхай дадаткова запіша працэдуры на болі радыкуліту і суставаў.

У пятніцу, 10 траўня, на Рэабілітацыйным аддзяленні ўчыніўся вялікі закалот. Беластоцкае тэлебачанне здымала сюжэт для тэленавін. Медабслуга і пацыенты думалі, што тэлебачанне цікавіцца пратэстам рэабілітантаў і фізіятэрапеўтаў. А віноўнікам зрабілі мяне, быццам бы гэта я паклапаціўся за прыезд тэлевізійнай брыгады. У нашай палаце № 11 прыбіральшчыца пачала наводзіць парадкі ва ўмывальніку, стала мыць вокны і падлогі. Таямніцу адкрыў наш сябрук па палаце Мірэк.

— Тэлебачанне цікавіцца не шпітальным пратэстам, — каментаваў калега, — толькі аўтаавараыяй Цімашэвіча, які наехаў жанчыну з роварам на пераходзе для пешаходаў. Сам я быў сведкам, як пры ўваходных дзвярах у шпіталь рэпарцёр пытаў людзей пра Цімашэвіча.

Падобныя пытанні ставіліся хворым на аддзяленні. У гэты вечар па мясцовай кабельнай сетцы тэлебачанне ў «Навінах» паведаміла: «Шафёр (г.зн. Цімашэвіч — У. С.) штурхануў кабету на пераходзе для пешаходаў і ўцёк з месца здарэння». Вось, даражэнькія, як інфармуе грамадства публічнае тэлебачанне. Дурніцу ўпіхаюць чалавеку ды застаўляюць яшчэ ілгунам абанемент плаціць.

(працяг будзе)

**Уладзімір СІДАРУК**

## Фольк-сустрэчы ў Міхалове

3 жніўня гэтага года (субота) у гарадскім амфітэатры ў Міхалове Беластоцкага павета адбудуцца беларускія фольк-сустрэчы з „Прымакамі".

На сцэне выступяць мастацкія калектывы з Беласточчыны і Рэспублікі Беларусь: „Сямейны квартэт Астапчукоў", „Расспяваны Гарадок", „Дзеці з Міхалова", „Славянская нота", „Чырвоныя шпількі", „Браты Данілюкі", „Спявай душа", „Асенні ліст", „Чыжавяне", „Світанак", „Казанова", „Ластаўка", „Лайланд", „Аморфос", „Сувенір", „Дабрыня", „Хутар", „Мікрон", „Калінка", „Вясна", „Фенікс", „Гай" ды „Прымакі". Багата іх.

Зоркі вечара: „Багач", „Песняры" і „Церніца".

Канцэрт ад 17-й да 2-й гадзіны ночы.

**(яц)**

# XX раз — па-сяброўску і з гурмой палітыкаў



Ужо дваццаты раз сабралася ў Гарадку на паляне ў Кнышынскай пушчы «Сяброўская бяседа».

У Гарадку — не ў «Грудэку», як велічалі гэты старажытны беларускі горад некаторыя калектывы. «Сяброўская бяседа» — адно з найважнейшых міжнародных мерапрыемстваў, прысвечаных культурным дасягненням рэгіёна і народнаму мастацтву з акцэнтам на культуру беларускай меншасці. Мерапрыемства мае характар канцэрта ў спалучэнні з супольнай забавай, у якой прымаюць удзел выканаўцы і гледачы. Спасылаецца яно на традыцыйную, укаранелую ў славянскай культуры дружалюбную сустрэчу, на якой не можа не хапіць музыкі, спеваў і танцаў. Праект прадстаўляе народную культуру ў шырокім дыяпазоне, таксама — дзякуючы ўдзелу каманд з Польшчы і Беларусі і прадстаўнікоў культур нацыянальных меншасцей, якія пражываюць на Падляшшы, дае магчымасць прадэманстраваць багацце культуры прыгранічных тэрыторый і садзейнічаць прыродна-турыстычным каштоўнасцям Падляшша. Удзел у мерапрыемстве дзіцячых, маладзёжных і дарослых калектываў паказвае багацце рэпертуару, а розныя віды музыкі і спеваў даюць магчымасць добра пагуляць разам — запрашалі на імпрэзу медыі. — Апрача забавы сустрэча дазваляе маладым людзям даведацца пра багацце айчыннага фальклору і тутэйшых беларускіх традыцый, неабходных для вызначэння нацыянальнай ідэнтычнасці, а ўсёй грамадзе пазнаёміцца з супольнымі каранямі, вярнуцца да традыцыі і разумець неабходнасць яе вырошчвання для будучых пакаленняў. Сёлета фестываль арганізаваны ў дваццаты раз. З гэтай нагоды былі падрыхтаваны шматлікія атракцыёны і багатая мастацкая праграма. Падчас мерапрыемства, акрамя выступленняў фальклорных калектываў і мастакоў, праходзілі спаборніцтвы: самая смачная рэгіянальная страва, фотасесія з мерапрыемства з хэштэгам, якую ацэньваюць карыстальнікі сайта Instagram і мастацкі конкурс пад лозунгам «Сяброўская бяседа ў вачах дзіцяці».

Беларускія фэсты бывалі тут раней, ужо бадай 54 гады таму; кожны год беларускія, бяседна-застольныя. У апошнія гады — тыдзень пасля на разгайданай рокам паляне Барык. «О, тут больш сёння людзей чым на «Басовішчы» было, — кажуць жанчыны з «Расспяванага Гарадка», якім даводзілася прымаць удзел у «Басовішчы». А бачым сёння знаёмыя цэлыя сем'і, з маладым і наймалодшым пакаленнем, з Нараўчанскай гміны, з Міхалоўскай, з самога Беластока, і з усёй Польшчы. Прывабіла іх таксама зорка вечара Адам Асанаў, вакаліст гурта «PIERSI» (стваральнік хіта «Bałkanica») у бяседным польска-балканскім рэпертуары. Мерапрыемства ўзбагацілі калектывы з Беларусі: спецыяльна запрошаныя


Падарунак з Ваўкавыска







«Івіца» з Магілёва


«Казка»



«Хутаране»

на мерапрыемства «Івіца» з Магілёва, «Цвецень» і «Уладары» з Ваўкавыска. У рамках Падляшскай актавы культур выступіла «Купалінка» з Мінска. Жывую музыку прадставілі групы «Гай», «Кантрольны вобраз» з Міхалова (спявае там тата маладой дырэктаркі Гміннага цэнтра культуры Магды Лотыш), «Немаральная прапанова», таксама падляшскія зоркі эстраднай музыкі «Добрые грайкі», «Зорка», «Золото», «ServerDance» — Давід Крот, «Сувенір». Усе мерапрыемствы ў гумарыстычнай абстаноўцы вялі ўдзельнікі калектываў з Гарадка, а назіралі за ходам мерапрыемства, не застольна як пры «Прымаку», трое гумарыстычна — па-старадаўняму апранутыя валанцёры з гарадоцкай школы.

На імпрэзу можна было дабрацца (апрача машын, якія заставілі ўсе дарогі, вуліцы і падворкі ў Валілах-Станцыі і Гарадку) з Беластока на выхадным цягніку, па маляўнічым маршруце праз Кнышынскую пушчу. Цягнікі Беласток — Валілы-Станцыя апраўляліся 27 ліпеня з чыгуначнай станцыі ў Беластоку ў 9:00, 15:50 і 18:30, а вярталіся 28 ліпеня са Станцыі-Валілы ў 00:30, 10:26, 16:56. Цягніком пасля поўначы вяртаўся толькі дзясятак гледачоў, значыць, усе аматары добрай песні і забавы гулялі ўсю ноч.

Міжнародны фестываль «Сяброўская бяседа» быў даступны для прагляду ў прамым эфіры — трансляваўся ў інтэрнэце на парталах Transmitujemy.pl і YouTube.

Успамінаў старыя фэсты Янка Сычэўскі: «Калі дырэктарам ГЦК стаў Юры Астапчук, у 2000 годзе, прыдумаў, супольна з Беларускім таварыствам зрабіць народную сустрэчу калектываў у сяброўскім стылі. Калісьнія фэсты былі досыць сярмяжныя. Цяпер гэты фестываль з'яўляецца добры месцам для наладжання супрацоўніцтва паміж калектывамі, гмінамі, мясцовасцямі. І сярод людзьмі».

Кажа Янка Карповіч, шэф капэлы «Хутар», які ад пачатку з беларускай песняй, былы дырэктар ГЦК:

— Аж цяжка палічыць, столькі раз мы гулялі ў Барыку на беларускіх фэстах. Але калісьці гэта быў проста беларускі сямейны фэст. Цэлымі сем'ямі прыбывалі гарадчане і іх госці, з пледамі і кошычкамі, на нашу паляну, і святкавалі. Цяпер гэта сапраўды вялікі, маштабны, міжнародны фестываль. Яднае ён таксама нашу гарадоцкую грамаду, уключаецца і школа, і бібліятэка, і арганізацыі. І можам пахваліцца перш за ўсё нашымі гарадоцкімі калектывамі. Дзяўчаткі і хлопчыкі з «Казкі», маладыя Оля Яроцкая, Піліп Каральчук, Амелія Ланеўская, Віця Садоўскі, спелы «Расспяваны Гарадок», наш «Хутар», залучанская «Каліна», «Асеннi ліст». Самае буйнае народнае гулянне на Падляшшы. Гулі і для душы, і для цела, з багатым пачастункам.

Галена Ляховіч з «Расспяванага Гарадка», запрашаючы на сцэну чарговы калектыў, успомніла і пра задумшчыка «Бяседы» і яе выгляду Юрку Астапчука (шкода, што цяпер не быў удзельнікам), і цытавала свой вершык: *Нашая „Бяседа" адзіная, бясцэнная, і думаю, што роўных у свеце ёй няма!* і жартавала словамі свайго героя: — *Я тым часам слухаў канцэрту з бутэлькай, усіх калектываў так і не змог палічыць...* Праўда, калі яшчэ пры святле можна было разлічыць, дзе бяседавалі па-за амфітэатрам за столікамі, на пледах шматлікія сямейнікі і іх госці, ужо падчас канцэрта «Сувеніра» танцуючы тлум шчыльна запоўніў усе вольныя і нявольны месцы там жа, дзе тыдзень таму курэў-гібаўся танцуючы тлум «Басовішча». Да дзікіх крыкаў захаплення даводзілі прыгажуні з «Івіцы» ды Габрыеля Траскоўская з выглядам даўганогай мадэлі (пляменніца «Калакольчыка»). Павальныя апладысменты віталі маленькага «прымачка» Віктара Садоўскага, які зноў «узлятаў» над сцэнай.

Дваццатую «Сяброўскую бяседу» адкрыў войт Гарадка Веслаў Кулеша: „Лічу «Бяседу» адкрытай!", не адмовіўшыся пералічыць у доўгім спіску шаноўных гасцей — ад святароў розных канфесій і нацыянальнасцей, дыпламатаў, палітыкаў, чыноўнікаў і самаўрадаўцаў, дэпутатаў ад Еўрасаюза і нават міністраў — наехала іх столькі, што мусіў адчытваць, усхваляваны, папусціўшы гальштук, з лістка, ды не забыўшыся ўспомніць пра дасягненні Гарадоцкай гміны, якой шэфам з'яўляецца не першы тэрмін. Запрасіў іх усіх на сцэну. З самых розных палітычных плыняў. «О, бачыш, нармальна маглі б патузацца, — усміхнулася цётачка з «Каліны». — Усялякія шэсці, маршы, плюющца ў тэлевізары адзін аднаму, а ў нас во як роўна радочкам паставалі! Панаехалі: выбары ў кастрычніку. Нават Юргель ёсць. І міністр Пянткоўскі ад асветы». Са сцэны нават загаварылі па-беларуску: прэзідэнт горада Беластока Тадэвуш Трускаляскі, дэпутат Роберт Тышкевіч, дэпутат Мечыслаў Башко (заўсёды адзначае, што ён — сусед з Шудзялава). Станіслаў Дэрагайла, старшыня Падляшскага сейміка, прыгадаў, што ён тут на сцэне не першы раз: ён жа з'яўляўся членам калектыву «Клекацякі» з Боцек і лятаў над барыкоўскай сцэнай быццам салідны матылёк не адзін раз. Як пісала ў паэтычным конкурсе (сёлета не праводзіўся) Кацярына Паплаўская з Калодна: *Апрача канцэрту ёсць і феерверкі. Калярова маланка — які ж свет міленькі! Каб глядзелі дзеткі, дарослы і маленькі; тутай бедны й багаты будзя весяленькі! (...) І для бабы, і для дзеда, бо сяброўства ўсім патрэбна!*

Малайцы арганізатары: «Сяброўская бяседа» набрала маладога бляску, руху, без акамянелых на сцэне за сталом бяседенікаў, без «ляпання». І дзякуй дзвюм чарадзейкам Міры і Іры з раманаўскага роду: яны прагналі аж за ўсю Гарадоцкую гміну, за цэлы Беластоцкі павет чорныя хмары, якія спачатку бяседы абрынуліся страшэннай залевай на Барык. І стала свежа, чыста, сонечна, родна. Хаця былі гурты, якія бессаромна карысталіся фанаграмай, не спадзеючыся, што раптам пад недалёкую буру можа ляпнуць электраток і пшыкне ўся атмасфера бяседы з жывымі сяброўскімі галасамі.

Арганізатары: Гарадоцкая гміна, Гарадоцкі цэнтр культуры ў Гарадку, Беларускае грамадска-культурнае таварыства ў Беластоку. Фэст быў рэалізаваны дзякуючы гранту міністра ўнутраных спраў і адміністрацыі. Задачу суфінансаваў Беластоцкі павет. Медыя-партнёры: Тэлебачанне Беласток, Радыё Беласток, Радыё Orthodoxia, Wrota Podlasia, BiałystokOnline.pl, Transmitujemy.pl, «Wiadomości Gródeckie — Гарадоцкія навіны». І «Ніва» — ад дзясяткаў гадоў, хоць пра гэта забылі арганізатары.

Тэкст і фота **Міры ЛУКШЫ**

## Новая выстаўка

У ліпені гэтага года ў Нараўцы Гайнаўскага павета арганізавалі мастацка-разьбярскі пленэр. Удзельнічалі ў ім мастакі і разбяры з Польшчы і Рэспублікі Беларусь: Вольга Раманчук, Іна Дзянішчык, Аркадзь Бурчык і Ілона Кандрачук з Брэста, Альжбета Вольфграм з Варшавы, Станіслаў Асташэўскі з Беластока, Іаанна і Збігнеў Храмецкія з Гдыні, Анна Левальская з Вейгерова, Тэрэса і Тамаш





Свербутовічы з Любліна ды Віктар Кабац і Марк Сапёлка з Гайнаўкі. Камісарам пленэру быў Марк Сапёлка (на здымку).

Пейзажысты намалявалі, між іншым, прыгожыя закуткі Нараўшчыны. На многіх карцінах адлюстраваны рака Нараўка, вёскі, цэрквы ў розныя поры года. Асабліва былі захопленыя імі выдатны жывапісец Марк Сапёлка і мастачка Альжбета Вольфграм. Намалявала яна вясковыя драўляныя хаты. Часта ўдзельнічала ў пленэрах і ўвекавечыла іх на сваіх карцінах. Зараз некаторыя з іх гэта ўжо важны дакумент. Для прыкладу, драўляную хату цікавай архітэктуры кінаржысёркі Тамары Саланевіч родам з Нараўкі новы ўласнік перабудаваў і памяняў. Яе ранейшы выгляд захаваўся на карцінах. Іншыя сельскагаспадарчыя будынкі Саланевічаў разабралі і яны зніклі з паверхні зямлі. Можна агледзець іх на карцінах.

20 ліпеня г.г. у Галерэі імя Тамары Саланевіч у Нараўцы мастакі ладзілі выстаўку сваіх прац. На адкрыццё экспазіцыі сабралася шмат людзей першнаперш з навакольных вёсак. Не было чамусьці штатных працаўнікоў гміннай управы. Прыехалі шэсць гмінных радных з Новага Ляўкова, Старога Ляўкова, Альхоўкі, Плянты, Скупава і Тарнопаля.

**Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

## Сухія таполі пры гравійцы

Старыя ды з гнёздамі амялы таполі (многа іх) стаяць пры гравійцы з Гарадзіска ў Плянту Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета. З сухіх дрэў падаюць у равы і на дарогу галіны. Некаторыя дрэвы пераламаў напорысты вецер. Іх чамусьці не сякуць.

У ветраны дзень ці такую ж ноч галіны і сухія таполі падаюць на маставую дарогі. Перш за ўсё гэта небяспека для пражываючых тут людзей, якія ездзяць і ходзяць па справах у Нараўку, а тут, між іншым, школа, царква, гмінная ўправа, амбулаторыя, аптэка, гмінны асяродак культуры, кааператыўны банк, пастарунак паліцыі, пошта, пяць крамаў: прыватных, ГС і „Аргелян" ды кветкавы магазін.

**(яц)**


Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка

для дзяцей і моладзі


# Пісалі іконы



З 1 па 7 ліпеня г.г. у Бельску адбыўся іканапісны лагер. Заняткі вяліся пры царкве Арханёла Міхала. У гэтым годзе было многа ўдзельнікаў, аж 17 асоб. Усе, моладзь і дзеці з зацікаўленнем малявалі іконы. Нашым настаўнікам быў бацюшка Павел Заброцкі. Спачатку ён аб'яснію нам вельмі дакладна як трэба пісаць іконы. Калі іконы сохлі, мы мелі іншыя заняткі, якія прыдумала нам спадарыня Ірэна Каравай, наша апякунка. Яна дбала, каб мы мелі смачны абед. У гэтым годзе малявалі іконы па ўзоры Пакрова Прасвятой Багародзіцы.

Лагер прыдумала пані Ірэна. Пісанне ікон гэта складны працэс, які патрабуе засяроджання, цішы.

Калі нашы іконы сохлі, мы знаёміліся з удзельнікамі групы. Лагер закончыўся ў нядзелю. Бацюшка Павел Заброцкі высвяціў нашы іконы, пасля кожны мог узяць сваю ікону дахаты. Яна будзе нам памяткай пра іканапісны лагер.

**Вікторыя Гаць,**
Бельск-Падляшскі



**Вікторыя Гаць,**
«Шэпты з шафы»

* * *

Прыязджаю,
Захапляюся гэтым краявідам,
Прыкладаю вуха да зямлі.
Слухаю, ці плача яна,
Ці плача гэтая вёсачка?
Чую...
Чую плач «мяшчан».
Дайце нам тут жыць,
Аддайце нашы хаты.
Мы не хочам выязджаць.
Адрываюся ад зямлі,
Заліваюся слязьмі.
Не магу гэтага слухаць.
Уцякаю з гэтага месца.

## Дзённік
### Сустрэч «Зоркі» (5)

11 чэрвеня,
аўторак,
гадзіна 14:00

Пасля абеду мы паехалі возам спадара Барыса Казлоўскага ў Нараўку. Там наведалі галерэю Тамары Саланевіч, якая паўстала ў 2007 годзе. У дарозе мы спявалі народныя песні. Нам усім было вельмі весела. У галерэі мы пабачылі цудоўныя іконы мясцовага мастака Міхала Пякарскага. Мы маглі паглядзець таксама цікавую выстаўку старых фатаграфій Якуба Смольскага з Лукі. Ён здымаў людзей са сваёй і навакольных вёсак. Няма ўжо гэтых вёсак. Яны былі выселены, калі будавалі Семяноўскае вадасховішча. Па галерэі вадзіла нас спадарыня Кася Бяляўская. На канец мы зрабілі ёй маленькі падарунак: праспявалі сустрачанскую песню «Ой пайду я на той ганок».

(працяг будзе)

Ева Іванюк, Галоўны рэдактар «Бел–News»

## УВАГА КОНКУРС!
## № 31-19

Поўны хлявец
белых авец,
адзін баран
— і той бляець.

(З... і я...)

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 18 жніўня 2019 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 27: камар. Узнагароду, аўдыёбук «Самасей» Сакрата Яновіча, выйграла Магда Якубюк з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

# Цяпер хачу ў Аргенціну

## Інтэрв'ю з Наталяй Кандрацюк-Свярубскай, рэдактар партала gazeta.pl.

**Бел-News: — Ці памятаеш, калі Ты першы раз прыехала на Сустрэчы «Зоркі»? Як гэта ўспамінаеш?**

Наталля Кандрацюк-Свярубская: — Мне было тады тры гадзікі, а Сустрэчы былі ў Меляшках. Мы там малявалі крыж і мелі розныя іншыя заняткі. Але для мяне гэта не было самым важным, таму што я закахалася ў вельмі прыгожага хлопца. Ён быў з Гарадка і называўся Гжэсек.

**Бел-News: — Ці на Сустрэчы «Зоркі» Ты прыязджала з ахвотай?**

Н.К-С: — Я не магла дачакацца чарговых Сустрэч. Яны былі для мяне цікавейшыя за прадшколле і школу. Я прыязджала яшчэ ў ліцэі, бо вельмі любіла пісаць і гаварыць з сябрамі.

**Бел-News: — Ці Сустрэчы паўплывалі на выбар прафесіі?**

Н.К-С: — Думаю, што так. Дзякуючы Сустрэчам, будучы вучаніцай, я ўвайшла ў свет журналістаў. Я навучылася пісаць, думаць. Цяпер мне лягчэй.

**Бел-News: — Ты ў сваёй працы шмат падарожнічаеш. Ці гэта быў Твой выбар, ці гэта здарылася выпадкова?**

Н.К-С: — Гэта быў і свядомы выбар, і выпадковасць. Калі я закончыла вышэйшую адукацыю, ведала, што хачу быць журналісткай, але не ведала, у якой секцыі хачу працаваць. Я любіла падарожжы і так атрымалася, што працую ў секцыі падарожжаў.

**Бел-News: — Якое месца найбольш Цябе ўразіла?**

Н.К-С: — Ёсць многа такіх месцаў. Мне цяжка сказаць пра адно, бо заўсёды нешта пазнаеш, захапляешся. Апошнім часам мне спадабалася Мальта і асабліва Блю-Грота — гэта такая вялікая пячора над морам, да якой трэба плысці на лодцы. Там іншы свет, такі, якога не прыдумаеш у самых каларытных летуценнях. Проста глядзіш і думаеш, як гэта магчымы такі цуд у прыродзе.

**Бел-News: — А ці былі такія месцы, якія Цябе прыбілі, спалохалі?**

Н.К-С: — Так, гэта Бялград. Я вельмі дзіўна там сябе адчувала і мне сніліся цяжкія сны. Магчыма, я падсвядома дакранулася да сумнай гісторыі гэтага месца, адчула рэха вайны, якая ў пачатку дзевяностых гадоў назначыла сталіцу Сербіі і ўсю Югаславію.

**Бел-News: — Ці падарожжы натхняюць Цябе да працы?**

Н.К-С: — Пасля кожнага падарожжа я гляджу на свет новымі вачыма, а ўспаміны і ўражанні — гэта творчае паліва для новых артыкулаў.



**Бел-News: — А куды цяпер хочаш паехаць?**

Н.К-С: — Я хацела б паехаць у Аргенціну, пабачыць Паўднёвую Амерыку. Я зведала ўжо шмат месцаў, а там яшчэ не была. Гэты свет здаецца мне іншым і розным ад нашага.

**Бел-News: — Ты якраз вярнулася з Мінска. Якое ўражанне зрабіў гэты горад?**

Н.К-С: — Людзі ў Мінску вельмі падобныя да нашых людзей з Падляшша. Проста, ідзеш па вуліцы і, здаецца, бачыш сяброў з Беластока. Я там працавала з міжнароднай групай журналістаў і ўвесь кантакт адбываўся на англійскай мове. Але мяне адразу палічылі «сваёй» і да ўсіх звярталіся па-англійску, а да мяне па-руску і па-беларуску. І гэта мне вельмі падабалася, узрушыла. У Беларусі я была першы раз і адчувала сябе як у бабулі на вёсцы.

А сам Мінск вельмі чысты і прыгожы.




## Польска-беларуская крыжаванка № 31-19

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 27-2019:**

Яслі, Ас, дух, пень, пена, цёця, сала, бас, боты, морква, кіно, зорка, квас, як, сто, траўка. Дух, тур, бінт, сон, паток, спелы, вы, Лена, за, Іна, мост, бор, царква, вёска, як, смятанка.

Узнагароду, аўтаручку, выйграла **Магда Якубюк** з Бельска-Падляшскага.



У нядзелю, 21 ліпеня, каля святліцы ў Тапорках сабраліся жыхары вёскі, пяць вакальных калектываў і многа публікі, у тым ліку з Кляшчэлеўскай, Арлянскай і суседніх гмін, каб паглядзець абраднае мерапрыемства «Перапяліца», якое ў вёсцы ладзіцца ўжо чацвёрты год запар. Арганізатарамі жніўнага абраду былі Гарадскі асяродак культуры, спорту і рэкрэацыі ў Кляшчэлях, солтыс Тапорак Вяслава Бакун і жыхары вёскі.



# «Перапяліца» стала ў Тапорках традыцыяй

Сёлета мерапрыемства «Перапяліца» арганізавалася ў рамках праекта «Залаты каласок, залатая саломка» рэалізаванага Гарадскім асяродкам культуры ў Кляшчэлях. Некалькі дзён раней у Тапорках былі арганізаваны два майстар-класы па выпечцы хлеба традыцыйным спосабам, якім пазней пачаставалі ўдзельнікаў мерапрыемства. З-пад святліцы шматлюдны жніўны карагод пайшоў на палетак даспелага жыта за вёскай. Спераду ішлі жыхары Тапорак, у тым ліку Рыгор Бобік з касой, солтыс Вяслава Бакун і Віталь Соха, якія на полі кіравалі жніўнымі работамі. За імі з сярпамі ў руках крочылі жанчыны з народнага фальклорнага этнаграфічнага калектыву «Хатовічы» з Хатыніч, што на Палессі, і маладыя ўдзельнікі Студыі фальклору «Жэмэрва» са Студзіводаў з музычным кіраўніком Аннай Фіёнік і са старшынёй Аб'яднання «Музей малой айчыны ў Студзіводах» Дарафеем Фіёнікам. Іх і іншыя калектывы запрасіла ў Тапоркі дырэктар Гарадскога асяродка культуры, спорту і рэкрэацыі ў Кляшчэлях Малгажата Клімовіч. У карагодзе ішлі члены беларускіх калектываў «Арляне» і «Вэрвачкі» з Орлі, вакальнай групы з Дабрывады і шматлікая публіка разам з бургамістрам Кляшчэляў Аляксандрам Сяліцкім і войтам Арлянскай гміны Лявонам Паўлючуком. На жытняе поле першым увайшоў Рыгор Бобік і пачаў касіць, а жанчыны з Тапорак падбіралі жыта і вязалі ў снапы. Пазней на поле ўвайшлі жнеі з сярпамі. Публіцы дэталёва была паказана праца ў час жніва. Жыхароў Тапорак успамагалі жанчыны з палескага калектыву «Хатовічы» з Хатыніч. Жняцы паказвалі, як у мінулым рабілі перавяслы, якімі звязвалі снапы, як іх састаўлялі ў мыдлі. Канешне, галоўным момантам сустрэчы было выканане ўпрыгожанай кветкамі «перапяліцы». У час паказу жніўныя песні спяваў калектыў «Жэмэрва», якому падпявалі ўдзельнікі свята. Акампанемент састаўляла ім студзіводская інструментальная капэла Дарафея Фіёніка.

— Я ў моладасці касіў збожжа касой і жаў сярпом. Цяпер можам паказаць традыцыйнае жніво маладым асобам, якія такой працы не бачылі. Мы паказалі як са збожжа рабілі перавяслы для вязання жыта ў снапы. Іх састаўлялі ў мыдлі, дзе дзевяць снапоў стаяла вертыкальна, якіх ахоўвалі ад дажджу тры снапы, пакладзеныя на іх гарызантальна. Снапы збожжа састаўлялі таксама ў ляшкі, дзе дзевяць снапоў прыкрывалі адным снапом, настромленым каласамі ўніз. Калі збожжа высахла на полі, звазілі яго ў клуні, складалі ў стагі, а пасля малацілі цэпам, пазней малатарняй, — удакладніў Віталь Соха з Тапорак, які спявае ў калектыве «Арляне».

— У Тапорках спачатку збожжа жалі сярпамі, а пазней мужчыны сталі касіць косамі. Гэта было вялікае аблягчэнне жанчынам, якія толькі падбіралі збожжа з пакосу і звязвалі перавясламі ў снапы. Калі збожжа сталі касіць коннымі, а пазней трактарнымі касілкамі, яшчэ лягчэйшым стала жніво. З дзевяностых гадоў на палях сталі арудаваць камбайны. Аднак калі ў час жніва ідуць дажджы, хвалюемся і не можам дачакацца, покі збожжа добра высахне,



— расказвалі жыхары Тапорак, якія яшчэ гаспадараць, гадуюць кароў і цялят.

— Збожжа мы зажыналі найчасцей у суботу, згодна з традыцыяй не пачыналі жніва ў панядзелак. Тыдняў два жалі мы азіміну і рабілі на ёй «перапяліцу», — сказалі жанчыны з Тапорак.

Паколькі гэты год засушлівы, сяляне Тапорак сабралі вельмі мала сена з першага пакосу, не расце атава. Збожжа таксама часткова засохла і земляробы апасаюцца, што трэба будзе купляць збожжа і сена, каб пракарміць жывёлу.

Калі скасілі і зжалі крыху жыта на палетку, жанчыны з дзеткамі пачалі рабіць «перапяліцу». Няжатыя каласкі жыта ўпрыгожылі яны кветкамі, паклалі каля іх каменьчыкі, а на іх — абрусак і хлеб. Усё гэта адбывалася пад акампанемент жніўных песень.

— Назва абраду выводзіцца ад перапёлкі, якая вадзілася ў збожжы і чырыкала падчас жніва. Калі я жыла ў Тапорках, адкуль я родам, «перапяліцу» мае бацькі рабілі на няжатай жменьцы пшаніцы. Рабілі яе таксама на жыце. Каля «перапяліцы» клалі невялічкія каменьчыкі або адзін плоскі камень. На яго клалі абрусачак і «хлеб для зайчыка». Калі ў вёсцы хварэлі дзеці, маці бегалі па палях і шукалі хлеб пад «перапяліцай», паколькі верылі, што ў яго вялікая лячэбная моц, — сказала Зоя Майстровіч з суседніх Рудутаў, вядомая майстрыха па саломапляценні і народная пісьменніца. — «Перапяліцу» клалі ў новую клуню і на яе складалі збожжа. Абрад «перапяліцы» захоўваўся ў нас да часу, калі збожжа касілі касілкамі і малацілі малатарнямі. Калі збожжа пачалі ўбіраць камбайны, людзі перасталі рабіць «перапяліцу». Вельмі добра, што цяпер аднавілі абрад і паказваюць маладому пакаленню.

Пасля заканчэння абраду «перапяліцы» ў полі, жыхары Тапорак запрасілі ўсіх на пачастунак стравамі, падрыхтаванымі паводле традыцыйных мясцовых рэцэптаў. Пачастка адбылася на пляцоўцы за святліцай, дзе сталы расстаўлены былі ў цяньку пад дрэвамі.

«Перапяліца» — багаты і цікавы абрад, які старэйшым жыхарам дае магчымасць успомніць, як калісь праходзіла жніво. Аднак сённяшняе мерапрыемства асабліва важнае дзеткам і моладзі, якія прыйшлі на поле і пагледзелі жніво ў мінулым, пабачылі як цяжка трэба было працаваць, каб сабраць збожжа, — сказаў бургамістр Кляшчэляў Аляксандр Сяліцкі.

Перад пачастункам солтыс вёскі Тапоркі Вяслава Бакун уручыла бургамістру бохан хлеба, спечанага ў час майстар-класаў. Паколькі частка тапоркаўскіх палёў распалажана ў Арлянскай гміне, на сустрэчу прыбылі войт Арлянскай гміны Лявон Паўлючук і арлянскія калектывы. Пачастунак перш за ўсё састаўлялі традыцыйныя стравы — свойскія хлеб і пірог, бульбяная таўканіца і дранікі, кашы, аладкі, халадок з буракамі, варэнікі з мясам, шмалец са скваркамі, тушаная капуста з каўбасой, яйкі, вяндліна, нарэзаныя агуркі і памідоры, салодкае пірожнае, падпівак, кампот і вада прыпраўленая зёлкамі.

— У нас не выконвалі «перапяліцы», але ў канцы жніва мы завязвалі на жменьцы няжатага збожжа «бараду», без яе ўпрыгожвання. Гэта рабілі, каб у наступным годзе быў яшчэ лепшы ўраджай. Хаця на палях нашага калгаса працуюць камбайны, ладзяцца ў нас яшчэ зажынкі і дажынкі, выконваем «бараду» і ладзім гасціну, у час якой спяваем жніўныя песні. Хаця ў нашай вёсцы жыве каля двух з паловай тысяч чалавек, то яна ўжо не такая шматлюдная, якой была раней, — распавяла Надзея Ярашэвіч, спявачка калектыву «Хатовічы» з Хатыніч Ганцавіцкага раёна.

Майстрыха па тканні Ніна Козак з Хатыніч удакладніла, што калі яна вучылася ў пачатковай школе, займалася там ажно каля дзевяцьсот вучняў і ў вёсцы жыло тады звыш пяці тысяч чалавек. Прапанавала яна, між іншым, тканыя кашулі, сумкі, і, канешне, плеценыя паясы, выконваць якія вучыла дзетак у час майстар-класаў у Студзіводах.

— У нашым музеі адбыліся майстар-класы «Лета з традыцыяй», у час якіх дзеткі вучыліся рукадзеллю. Саломапляценню вучыла Зоя Майстровіч з Рудутаў, а майстры з Беларусі вучылі маляванню на палатне, ганчарству, тканню паясоў і іншаму рукадзеллю. Сёння прыехалі яны сюды ў Тапоркі. Была яшчэ вучоба спяванню і танцам на адкрытым паветры. Фальклорны калектыў «Хатовічы» прыехаў на выступы ў рамках нашых Падляшска-Палескіх жніўных сустрэч «Олень по бору ходіт», што пачаліся ў суботу, 20 ліпеня, са жніва ў Студзіводах. У ім прынялі ўдзел таксама дзеткі з нашага летніка, а калектыў «Хатовічы» тут таксама паказаў цікавую манеру спявання, — паінфармавалі Анна і Дарафей Фіёнік.

Жніўныя сустрэчы будуць яшчэ адбывацца, між іншым, у Касьной, каля Дашоў Кляшчэлеўскай гміны. У справе прэзентавання жніўных абрадаў прадбачваецца далейшая супраца з Гарадскім асяродкам культуры ў Кляшчэлях.

— Мы думалі, якое штогадовае мерапрыемства ладзіць у Тапорках і паколькі гэта сельскагаспадарчая вёска, рашыліся на прэзентацыю жніўнага абраду, які сёння паказваўся чацвёрты раз. У нашай гміне дзейнічае этнаграфічны веласіпедны шлях. На ім знаходзіцца вёска Тапоркі, дзе прэзентуем абрад «перапяліцы». У Дабрывадзе арганізуем выпяканне каравая, а ў Залешанах — бусліных лап, — сказала дырэктар Гарадскога асяродка культуры, спорту і рэкрэацыі ў Кляшчэлях Малгажата Клімовіч, якая сачыла за ходам усяго жніўнага мерапрыемства.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

*Размова з **Янам ГАВОРКАМ**, пенсіянерам з Кашалёў, 1931 года нараджэння.*

# Служыў адным і другім

Тэкст і фота **Міхала МІНЦЭВІЧА**

**— Ці Вы запамяталі сваіх дзядоў?**

— Толькі з расказаў, бо я і бацьку ледзь памятаю. Аб дзядах расказваў мне мой бацька Астап, 1877 года нараджэння. Дзядоў з боку мамы не памятаю.

Калі майму бацьку было тры гады, яго сястры дзесяць, а старэйшаму брату шаснаццаць гадоў, іхнія бацькі — мае дзяды — паўміралі. І яны асталіся самі. Бацьку дагглядалі ягоныя сястра і брат Фадзей. У Кашалях тады была школа і яны крыху, цягам двух гадоў, у яе хадзілі. Было чатыры гектары зямлі, конь. І той Фадзей вазіў арлянскіх жыдоў у Белавежу, Гайнаўку, Кляшчэлі гандляваць. І так жылі. І ніхто не даваў 500+.

Бацька яшчэ пры цары, калі яму было трынаццаць гадоў, пайшоў у Шарні за парабка, усё рабіў з гаспадаром, нейкім Сідарам. І то ўжо было добра, бо было што есці; было яму добра.

Калі бацьку было 19 гадоў, царскія чыноўнікі пабачылі, што ён здаровы і стройны мужчына, і прызвалі яго ў войска, на тры гады ў артылерыю.




Аляксандра і Ян Гаворка

Вярнуўся ў Кашалі, а тут у сябе нічога не асталося, нават хаты. Была тут жанчына на восем гадоў старэйшая, незамужняя, і ажаніўся з ёю. Мела яна сваю хату і шэсць гектараў зямлі. Але акурат пачалася Першая сусветная вайна. Бацьку адразу прызвалі ў армію, а жонка паехала ў бежанства. Так тады жылі людзі.

Чатыры гады бацька ваяваў за цара, спярша з немцамі. Было так, што сустракаліся з немцамі і абменьваліся: немцы мелі нажніцы, брытвы, нажы. Тое „перамір'е" доўжылася мо з два тыдні, а пасля зноў пачалі да сябе страляць. Бацька быў пры гармаце, страляла на пяць кіламетраў.

У пачатку вайны цар выдаў дэкрэт, у якім заклікаў салдат не красці і запэўніваў, што ёсць запасы па пятнаццаць гадоў. А голад заглянуў пасля чатырох гадоў вайны; чырвоныя нішчылі ўсе запасы. Калі пачалася рэвалюцыя, бацька вярнуўся дадому.

Тут яшчэ былі немцы. Бацька вярнуўся, а тут нічога не было. Паехаў з сястрою ў Леўкі, набралі там бульбы і бручкі з паслянямецкіх ваенных запасаў. Падаліся ў Бельск да немца, каб даў каня. І даў, але худога. Нашы сталі прасіць лепшага, а ў адказ немец зусім нічога не даў.

**— Як Вы запамяталі сваё дзяцінства?**

— Было нас двое: я і сястра Марыя з 1928 года. Ішоў мне пяты год, калі памерла маці. І я жыў каля мачахі — не быў я піражкамі гадаваны.

**— Школа выпала Вам таксама ў цяжкі час...**

— У школу пайшоў у 1939 годзе. Настаўнік сказаў кожнаму вучню прынесці грашак ці колькі на станковы кулямёт; не помню, колькі мне тады бацькі далі. То вучань Люшка Сакалоўскі з Кашалёў ездзіў на высвячэнне таго кулямёта, які купіла арлянская школа.

У парцы сядзеў я з жыдам і жыдоўкай, былі двайнятамі, прозвішча іхняе Ізбуцкі. Ізбуцкія мелі ў Орлі пякарню. Паводле мяне яны абое былі з 1931 года. Я да іх заходзіў дзеля таго, каб атрымаць булачку. Іхнюю сям'ю немцы забралі ў гета. (Некаторыя арляне прыгадваюць, што Ізбуцкіх вывезлі саветы — М. М.) Іх старэйшы брат быў у Чырвонай Арміі; выжыў.

У школу хадзіў пры саветах, а пасля і пры немцах. Вучыла Раіса са Шчытоў, хадзіла з кійком і калі што не так — адразу па галаве. Так! Жулікамі былі Ахрыцэвічы і Рубашэўскія.

**— Ці помніце арлянскіх жыдоў?**

— У рынку, дзе парк, былі ларкі — адзін на другім. Былі меншыя і большыя. А паміж тымі ларкамі немагчыма было прайсці, бо там ноччу апаражняліся.

Насупраць ларкоў, праз вуліцу, побач Цвяцінскага, былі жыды-канакрады; гандлявалі конямі. Быў там вялікі падвал і там тых коней хавалі.

Адзін з жыдоў, уладальнік пякарні, пасварыўся з іншымі жыдамі і тады яны налажылі на яго „гейм", што ніхто не хадзіў да яго купляць. Цягам двух гадоў ён збядneў. Бо людзі з вёсак не куплялі хлеба — самі пяклі.

Была ў Кашалях сваячка Нінка, прыгожая, найбагацейшая. І жыды прыходзілі ў Кашалі на забаву; забавы ладзілі ў хатах. Жыд запрашае да танца, а нашы дзяўчаты не хочуць. А тая Нінка: „Эй, жыдэ, ході танцэваты, будут свіні шыховаты!" І ўсе „Аля-ля", і ўсе пайшлі танцаваць з жыдамі.

Памятаю — ляжу хворы дома. А прыйшла жыдоўка да маці, прынесла нешта загандляваць. І пытае чаму я ў ляжу. „Нагу сагнула", — адказала маці. Жыдоўка паглядзела і кажа: „Ты нічога не рабі, вазьмі пацяpухі з сена, запар і яму адыдзе". Так зрабіла — прыклала да нагі і раніцай нага выпрасталася.

Жыдоўскі дантыст Ляцкі (жыў побач царквы — М. М.) Сярожы Гаворку пламбаваў зуб і трыццаць гадоў тая пломба трымалася.

**— Ці Вы запамяталі вялікі пажар Орлі 18 мая 1938 года?**

— Памятаю, але слаба. Было страшна. Тыя жыды на луг пад раку выносілі свае лахі. Гарэла неяк так, што зразу пайшло ў бок 3 Мая, дзе Ахрыцэвіч. То жыды неслі ўсе тыя лахі пад раку. А пасля ўжо арляне казалі, што кашалёўцы кралі-кралі. А гэта хлусня.

Можа я і дрэнна знаю, але як кажуць: як ты ў бягу нёс, і я ў бягу нёс, я тут паставіў, і ты тут паставіў, то адны жыды ў другіх пасля забіралі, дзе хто кінуў з тае гарачкі.

**— Але людзі беглі да пажару і калі бачылі як хто нёс? — дапытваю.**

— То нёс з Шарнёў, можа хто і з Тапчыкал, і з Пашкоўшчыны. Як мой бацька казаў, то больш жыды блытаніны з сабою мелі.

**— Як было ў Кашалях у час вайны?**

— Калі ў 1939 годзе пачалася вайна, то была камісія і трэба было коней весці. Бацька завёў аднаго каня ў Голі пад Берасцем — для санацыйнай Польшчы. Вярнуўся дадому, а ў нас яшчэ другі конь. Солтыс Мікалай Майстровіч не ладзіўся з маім бацькам і прыйшоў з загадам, каб бацька вёз сакратара з Орлі ў Белавежу. Бацька адказаў, што не павязе, што ўжо аднага каня здаў, а ў вёсцы ёсць такія, што па двое коней маюць. Тады солтыс выцягнуў з кішэні пісталет; і прымусіў.

Завёз бацька таго сакратара і вяртаецца канём дадому. За Гайнаўкай выходзіць з лесу чатырох польскіх жаўнераў і загадваюць злазіць з воза. І вярнуўся бацька з кійком дадому; двое коней у 1939 годзе аддаў.

Саветы захапілі пад Берасцем той польскі лагер з конямі. Бацька даведаўся, пайшоў і свайго сівага каня знайшоў. Зайшоў ва ўправу, расказаў пра каня падрабязнасці і аддалі. Конь быў у нейкага гаспадара, але вярнуў, бо конь кусаўся. Гэта той першы конь з Голяў, а другі прапаў.

Мелі вялікага вепрука, калі насталі саветы; трэба закалоць. Бацька папрасіў Цвяцінскага з Орлі, каталіка, які меў сваю бойню дома; закалоў і памог прадаць мяса на рынку ў Гайнаўцы. За тыя грошы купіў ладную кабылу ў Тапчыкалах.

У Орлі, на сцяне жыдоўскай аптэкі, саветы дэманстравалі фільмы, усе ваенныя. Мы сядзелі з боку вуліцы і глядзелі. І з вёсак прыходзілі глядзець фільмы.

Калі ў 1941 годзе немцы гналі рускіх, то бралі іх у палон. Солтыс прывёў да нас маладога, каля дваццаці гадоў, рускага салдата Сярожу, маленькага, выхудзелага, каб людзі яго кармілі. У нас пабыў ён два дні і пайшоў да суседа. І дайшоў да каваля Ігната і пачаў у яго працаваць. А пасля пайшоў у партызаны і праўдападобна каля Леўкаў немцы яго забілі.

Калі прыйшлі немцы, то з агульнай пашы забралі нашу кабылу; бацька прасіў, але не аддалі. Далі квітанцыю і сказалі, што як настане лад, то заплацяць. Калі ў Орлі з'явіўся камісар Сандэцкі, малы, хадзіў з міліцай, бацька паказаў паперу. „O, ładną klacz miałeś. Zabrali dla artylerii". Выняў са стала грошы і даў бацьку. Паехаў бацька ў Парцава і купіў кабылу. Такі быў парадак.

Завялі кабылу ў кафлярню (там была жандармерыя, канюшня і г.д. — М. М.) да жарабца. Кабыла ажарабілася, калі — паводле загаду солтыса — бацька меў ісці араць у камісара. Солтыс данёс, што бацька не хоча ісці араць, а бацька прасіў яго, каб даў іншага каня. Прыехаў камісар з солтысам; вазіў яго нейкі Камачоў. І камісар: „Co, klacz się oźrebiła? O, ładny źrebaczek. Sołtys: wypisać trzy metry owsa. Zaraz!"

Склад збожжа быў у будынку „малой" арлянскай школы; кладаўшчыком быў Пятро Назарэвіч. Бацька завёз да яго літр гарэлкі, саланіну... І загрузілі не тры, а шэсць метраў збожжа. То солтыс не мог дараваць.

Калі ўжо наступалі рускія, ідзе солтыс і да бацькі: „Ты, Астап, яшчэ тры метры збожжа не адвёз у склад." А бацька: „Запозна — чуеш, што ўжо ў Крывятычах грыміць..."

**— А як Вы запамяталі жыдоў пры немцах?**

— Памятаю як сёння. Калі яшчэ гета не было, прыбеглі да нас два жыдоўскія падлет-

чытайце ☞ 10

9 ☞ працяг

кі. А мы з бацькам прывезлі сама жыта ў снапках. Прывезлі дзве фуры і прыйшлі яны — дзеці бацькавага знаёмага, які жыў каля млына. І просяць бацьку, каб даць ім бульбы, бо так іх бацька дагаварыўся з маім. Бацька сказаў што дасць, але калі яны дапамогуць разгрузіць жыта. Ну і яны памагалі, а я ўжо сядзеў.

Далі ім кошык ці паўкошыка бульбы ў мяшочак, схапілі ўдваіх. І былі такія задаволеныя, смяяліся.

Калі рыхталіся да закладкі гета, то жыдам сказалі сабраць колькісь там золата, то не зачыняць іх у гета. І жыды збіралі і самі заносілі да Пятра Назарэвіча, таго кладаўшчыка збожжа. Бо цераз кагось трэба было перадаць. То ўсё Пятро афармляў. І хіба два разы збіралі.

Калі жыдоў ужо вывозілі, мы, вучні, былі ў школе (зараз там капліца — М. М.), і калі жыды прыходзілі побач школьнага будынка то ўжо некаторыя кідалі свае клункі.

Мой бацька вёз жыда-цырульніка. У яго былі два вялікія звязаныя клункі. Калі завёз у Бельск, то жыд сказаў, каб бацька забраў іх сабе, бо яму ўжо яны непатрэбныя. Але бацька баяўся немцаў і выгрузіў тыя клункі. Бацька расказваў, што арлянскіх жыдоў вазілі ў бельскае гета (паводле іншых расказчыкаў вазілі іх на станцыю ў вагоны — М. М.)

Калі немец адступаў, то спаліў у Кашалях адзінаццаць хат; было гэта ў сераду. Немцы былі яшчэ ў Орлі, а рускія ўжо ракою з Чорнага Лесу прыйшлі ў Кашалі. Немцы падпалілі, каб ім было відна як салдаты ідуць. І затрымаліся ў Міклашах, Вульцы, Тапчыкалах, Спічках і праз тыдзень быў тут фронт.

**— Як выглядала жыццё зараз пасля вайны?**

— У 1946 годзе то я „Бурага" вазіў. Як спалілі Залешаны, то прыйшлі ў Шарні. І, мабыць, Шарні таксама спалілі б, але там Гандзі маці і Стэцова далі ім саланіны, хлеба; і вёска ацалела. І пад вечар прыйшлі пяшком у Кашалі.

Іду я вуліцай з Люшкам Рыбаком, а ад нас выходзяць два жаўнеры ў польскіх мундзірах і: „Zakładaj konia!" І ўсё. Запрагаю каня і іх чатырох з двума кулямётамі з патэльнямі завёз у Стары Корнін. Было многа фур. Калі яшчэ ехалі ў Орлі, то сядзелі ў фуры, а калі ўехалі ў Крывятычы на дварэ ўжо змяркала і двaіх з іх выскачыла з воза, а два ехалі. Заехалі ў Стары Корнін і я завярнуўся. Адны даехалі да царквы, іншыя не. Я не даехаў: „Zawracaj!"; і я прыехаў дадому. У Орлі і Крывятычах не затрымліваліся.

Прыгадваецца мне, як я быў у санаторыі. У зале я сказаў адкуль я і што праваслаўны і маю 800 злотых пенсіі. То адзін выскачыў, заругаўся і кажа: „Tobie wogóle nie powinni dać emerytury!" А я яму адказаў так: „У 1945 годзе ў Орлі быў склад, то я канём вазіў у Беласток; колькі наклалі, столькі завёз. Цэлую ноч ехалі. Разгрузілі, далі падсілкаванне, пад'елі і вярнуліся ў Кашалі. І „Бурага" ў 1946 годзе вазіў з Кашалёў. Я адным і другім служыў. Пры санацыі мой бацька аддаў Польшчы двое коней і два вазы". Тады з залы адазваўся другі: „Widzisz, ile dał. A ty co dałeś?!"

**— Ці бралі Вас у войска?**

— Не быў, бо бацька быў стары і я быў адзіным кармільцам сям'і. От, і „камуна". За мяне бацька адслужыў сем гадоў — то мала?

Пасля вайны, калі Кашалі былі спалены, то амаль цэлую зіму жыў у Вульцы. Працаваў крыху ў Орлі, у каваля Раманюка. Ён быў з Крывой і арлянцаў заўсёды называў свечкагасамі, бо ў шабас гасілі жыдам свечкі.

**— Ваша дарослае жыццё?**

— У 1956 годзе ажаніўся з кашалёўскай дзяўчынай Аляксандрай, настаўніцай. У нас дачка і сын.

**— Ці помніце свой шлюб, хто вянчаў?**

— Вянчаў Максім Сандовіч. Помню гэтага бацюшку; ён і ягоная матушка вельмі прыгожа спявалі. Былі мы ў Беластоку на „ўходынах". І ён быў там хату высвячаць, а пасля з матушкай сталі спяваць украінскія песні, такія кампанейскія, што аж душа замірала.

Памятаю яго словы з царквы, калі я яшчэ хлопцам быў. Было жніво ці звозка, а ён сказаў: „Памаліліся — ідзіце трудзіціся, это не грэшно". Я ўвесь час тое помню. А цяпер папракаюць: „Пілят драва, а сёння празнік..." Каму што трэба, той тое і робіць.

**— На канец спытаю: як успамінаеце ПНР?**

— Калісь начальнік гміны Мікалай Зіневіч паклікаў на сесію Гмінная рады. Былі там нейкія паны з Беластока. І пачаў хваліць, што ўсяго хапае — вугалю, шыферу... А нашы вяскоўцы пляскаюць у далоні. А я кажу, што гэта няпраўда: у мяне дом пабудаваны, сто квадратных метраў, цэнтральнае і маю 600 кілаграмаў вугалю — ці гэта хопіць на год? А шыфер — пагляньце, з акна ўправы відаць — будынкі саломаю крыты, а тут тры прашэнні ляжыць і шыферу не атрымаць.

Тады падтрымаў мяне Юзаф Бжана, арлянскі лекар ветэрынары: „Так, Гаворка сказаў праўду. Я ў кожным двары бываю і бачу — таго бракуе, таго бракуе..."

А радныя ўсё пляскалі. Па-мойму — або маўчы, або кажы праўду.

**— Вельмі дзякую за размову.**

Тэкст і фота **Міхала МІНЦЭВІЧА**




## http://24d.by/nominanty/vouk-by

Воўк спрадвеку лічыўся і застаецца лічыцца страшэнным лясным драпежнікам. Пра яго злы нораў людзі здаўна складалі розныя казкі, паданні і нават вершы. Аднак, акрамя страху, ваўкі выклікалі ў людзей і павагу, што, магчыма, вынікала менавіта з той жывёльнай боязі перад вострымі зубамі і бліскучымі ў цемры вачыма.

Калі ж падыходзіць да ваўкоў з навуковага пункту гледжання, то разумееш — гэтыя істоты з'яўляюцца адным з важных звенняў у лясным свеце, бо яны — санітары лесу, якія ратуюць яго ад слабых і хворых жывёл. Таму вывучаць ваўкоў гэта даволі цікавы занятак, у чым лёгка ўпэўніцца, калі зазірнуць на сайт „Ваўкі", што месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://24d.by/nominanty/vouk-by.**

З галоўнай старонкі сайта на нас глядзіць воўчая пыса, крыху прысыпаная снегам. „Чатыры ваўкі сталі публічнымі персонамі і расказваюць людзям пра сваё жыццё ў блогу", — распавядаецца ў надпісе з левага боку ад ваўчынага здымка. Дарэчы, дадзены сайт з'яўляецца адмысловым праектам па вывучэнні паводзін гэтых драпежнікаў. „Некалькі ваўкоў з Белавежскай пушчы маюць спецыяльныя ашыйнікі з GPS-перадатчыкамі, якія перасылаюць каардынаты іх блукання па лесе даследчыкам. Кропкі наносяцца на інтэрактыўную карту, а самыя цікавыя гісторыі з жыцця драпежнікаў публікуюцца ў «Воўчым блогу», — адзначаецца на галоўнай старонцы.

На старонцы „Аб праекце" дадаецца, што папуляцыйная экалогія ваўка вывучаецца ў рамках пяцігадовай Міжнароднай прыродаахоўнай праграмы ў падтрымку запаведнасці, якую ў 2013 годзе падпісалі нацыянальны парк „Белавежская пушча", грамадская арганізацыя „Ахова птушак Бацькаўшчыны" і Франкфурцкае заалагічнае таварыства (Германія). Назіранне за ваўкамі з дапамогай спецыяльных ашыйнікаў — толькі адзін з метадаў даследавання.

Паводле пададзенай там інфармацыі, яшчэ ў 2014 годзе ў Белавежскай пушчы былі ўстаноўлены 14 фотапастак, якія спрацоўваюць на цяпло цела і робяць фотаздымкі і відэазапісы звяроў.

Асноўная задача дадзенага праекта — атрымаць даныя па экалогіі ваўкоў на прыкладзе чатырох вышэйзгаданых асобін. „Як яны перамяшчаюцца, харчуюцца, даведацца пра зносіны ў зграі і паміж зграямі. Усвядоміць іх месца ў экасістэме Белавежскай пушчы і зразумець, як на існаванне ваўкоў уплывае запаведны рэжым і абмежаванне гаспадарчай дзейнасці. На час правядзення даследавання ў пушчы ўсталяваны мараторый на паляванне на ваўкоў, каб засцерагчы памечаных жывёлін ад знішчэння", — пішуць распрацоўшчыкі праекта. Другая задача — расказаць шырокай грамадскасці пра значнасць гэтых жывёл у прыродзе і важнасць іх аховы.

З левага боку гэтай жа старонкі месціцца „партрэты" ваўкоў з іх мянушкамі. Праўда, іх больш за чатыры. З чаго трэба разумець, што ў праект далучаюцца новыя драпежнікі. Аднак пакуль можна назіраць за шляхамі перамяшчэння менавіта чатырох ваўкоў. На старонцы „Воўчы блог" можна пабачыць, як адзін з іх, па мянушцы Руды, перайшоўшы беларуска-польскую мяжу, дабраўся ажно да Бельска-Падляшскага.

Пра тых, хто каардынуе праект па вывучэнні ваўкоў, мы можам даведацца, калі вернемся на старонку „Пра праект", дзе змешчаны партрэты і пасады яго ідэйных натхняльнікаў і выканаўцаў.

**Аляксандр ЯКІМЮК**

## Дата з календара

Дата з календара Дата з календара Дата з календара Дата з календара




## 90 гадоў з дня нараджэння
# Алеся Алехніка

Дзеяч беларускай эміграцыі Алесь Алехнік нарадзіўся 31 ліпеня 1929 г. на хутары Перунова (сённяшні Лунінецкі раён). Хутар знаходзіўся прыблізна ў 9 кіламетрах ад ранейшага мястэчка, а цяпер вёскі Лахва, што непадалёк чыгункі. Паходзіў з сялянскай праваслаўнай сям'і, якая працавала на зямлі і нястачы не ведала. Родная мясцовасць на той час знаходзілася на тэрыторыі Польшчы, Алехнікі жылі прыблізна 40 кіламетраў ад мяжы. Вучыўся Алесь у польскай школе, якая месцілася ў будынку, што пабудавалі яго бацька і дзядзькі.

У 1939 г. прыйшлі бальшавікі і перавялі школу на расейскую мову. Аднак, паводле ўспамінаў Алехніка, габрэйскія настаўнікі давалі яму і беларускія кніжкі. Сям'я Алехнікаў саветамі была запісаная на вываз у Сібір, які планаваўся на канец чэрвеня 1941 г. Але якраз прыйшла вайна. Пры немцах Алесь вучыўся ў гімназіі-дзесяцігодцы, цягнуўся да беларускасці.

Напрыканцы вайны Алехнік апынуўся ў Нямеччыне, куды пастанавілі пераехаць бацькі. У 1948 г. яго, дзевятнаццацігадовага хлопца з лагера Міхельсдорф, улучылі ў Беларускую рэпрэзэнтатыўную службу на эміграцыі. У ягоныя абавязкі ўваходзіла пашырэнне праўды пра Беларусь сярод людзей рознай нацыянальнасці, што воляю лёсу апынуліся паміж межаў і дзяржаў, у лагерах для „перамешчаных асоб".

У Аўстралію Алесь Алехнік пераехаў у 1950 г. Быў сябрам і шматгадовым сакратаром Беларускага аб'яднання ў Аўстраліі, ад імя якога прадстаўляў беларусаў на разнастайных міжнацыянальных форумах у Аўстраліі (удзельнічаў у дзвюх Аўстралійскіх грамадзянскіх канвенцыях, быў назіральнікам у парламенце, удзельнічаў па-за межамі Аўстраліі ў канферэнцыях Антыкамуністычнай лігі народаў Азіі і Сусветнай антыкамуністычнай лігі. Менавіта дзякуючы яму ў рэзалюцыях гэтых арганізацый абавязкова гучала патрабаванне незалежнасці Беларусі. „З таго вопыту, які я ўжо здабыў, удзельнічаючы ў розных міжнацыянальных мітынгах-нарадах, я знаў, што слабога, нерашучага, заўсёды наракаючага нiхто не любіў і любіць не будзе", — пісаў ён пазней у кнізе ўспамінаў.

За гады грамадскай дыпламатычнай працы Алехнік меў сталыя дачыненні з прэзідэнтамі і прэм'ер-міністрамі Аўстраліі, Паўднёвага В'етнама, Карэі, Філіпін, Вялікабрытаніі, Літвы (Казімірай Прунскене), Харватыі, старшынёй Сеймаса Літвы Вітаўтасам Ландсбергісам, брытанскай каралевай Элізабет ІІ. Напрыканцы 1950-х гадоў займаўся выданнем інфармацыйнага бюлетэня Беларускага аб'яднання ў Аўстраліі „Новае жыццё". У 1969-1982 гг. — кіраўнік Краёвага штабу Беларускага Вызвольнага Фронту ў Аўстраліі.

У канцы 1980-х гадоў Алесь Алехнік адышоў ад актыўнай грамадскай дзейнасці. У 1990 годзе ён накіроўваў лісты Вячаславу Кебічу і Станіславу Шушкевічу, тагачасным кіраўнікам Беларусі, хацеў наведаць радзіму. Адказ прыйшоў толькі праз два гады, ад кіраўніка МЗС Пятра Краўчанкі: „Бацькаўшчына будзе заўсёды ўдзячная за тое, што Вы зрабілі для яе".

Алесь Алехнік — аўтар кнігі ўспамінаў „Пад бел-чырвона-белым". Яна выйшла ў Вільні ў 1999 г., прадмову да мемуараў напісаў Сяржук Вітушка. Памёр Алехнік 3 снежня 2006 г., пахаваны на беларускай частцы сіднейскіх могілак Руквуд. Яго архіў, у які ўвайшлі дакументы Беларускага аб'яднання і шматлікае ліставанне, захоўваецца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

Віктар ШВЕД

## Скарбы гарышча

На гарышчы лапці з лыка
Калісь угледзеў я ў дзядулі.
Побач стаялі чаравікі,
Якія ў школу мне абулі.

Зваліліся з ног дзедкі лапці
І дзедка зноўку шукаў лыка.
Выраслі мне ногі ў капцях,
Не было новых чаравікаў.

## Дыялект і мова

Дыялект я вёскі Мора
Выпіў з малаком матулі.
Чуллівых дыялектных твораў
Слухаў у люльцы — „Люлі, люлі...”.

Пачаў пісаць я свае вершы
У мове роднай, мове слаўнай,
У мове заўсягды мне першай,
У мове дзяржаўнай!

Беласток, 22 ліпеня 2019 года.

Дар'юш ЖУКОЎСКІ

* * *

*«Лета мае змест і смак, калі бегаеш увесь дзень*
*Па дарозе поўнай сонца, якая кудысьці ідзе.*
*Лета мае сэнс і змест, калі пару дзён ідзеш,*
*Па дарозе поўнай сонца шлях кудысь вядзеш».*

А лета было прыгожае ў той год,
Мы ішлі па дарозе ў Грыбаўцы,
Да дзядулі Юзафа,
Зарэчаны, чыгуначны пераезд, шаша,
З правага боку лугу лятаў махаон,
Меў стройнае цела, малую галоўку,
Жоўтыя крылы з чорнымі і сінімі ўзорамі,
З дзвюма чырвонымі кропкамі на канцы ўнутранага іх краю,
Вусені махаона сілкуюцца лісцем раслін сямейства парасонавых,
Такіх, як: садовая і дзікая морква, кроп, бядрынец, кмен і пятрушка,
Дарослая кузурка есць мала,
Сілкуецца невялікай колькасцю нектару і расы,
Калісьці было шмат такіх матылёў,
Але з-за сучаснай сельскай гаспадаркі і дзейнасці калекцыянераў
У некаторых месцах яны амаль прапалі,
Добра, што тады мы ішлі,
Па дарозе поўнай сонца,
Таму што сёння гэты верш мае сэнс,
І мой махаон надалей лятае,
У тым жа самым месцы,
Частуючыся крышынкай нектару і расы.

## Спевы над ракой Нараўкай

Ужо ў пачатку 2019 года было запланавана, што ў нядзелю, 21 ліпеня, Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку, войт Нараўчанскай гміны і Гмінны асяродак культуры ў Нараўцы сарганізуюць беларускі народны фэст у амфітэатры ў Нараўцы. Арганізатары запрасілі сем мастацкіх вакальных і танцавальных калектываў: пяць з Беласточчыны і два з Рэспублікі Беларусь.

Калектывы прыехалі пасля поўдня і ўсе класна выступілі перад нараўчанскай публікай, якая не шкадавала ім гарачых апладысментаў. Пачалі канцэрт „Росы” з Рыбалаў, затым выступілі „Спадчына” з Пружан (танцы), „Exit” з Крынак, „Крыніца” і „Лайланд” з Беластока, „Уладары” з Ваўкавыска і „Васілёчкі” з Бельска-Падляшскага. Пахваліць трэба ўсіх. Выдатна зарэкамендавалі сябе ваўкавыскія „Уладары”.

Шкада, што на летнім фэсце зусім не паказаліся нашы гмінныя ўладары. Не паявіліся і не прывіталі гасцей ні войт, ні яго намеснік, ні сакратар гміны. Як добра памятаю, да гэтага года нічога такога ў Нараўчанскай гміне ніколі не было. Ну проста для нас, тутэйшых жыхароў, сорамна. Але што ж новы войт і новыя наводзіць парадкі. Між іншым, пачаў пераносіць помнік, бо так захацеў. Я, радны, быў супраць. Прыкра мне, і не толькі мне, за паводзіны войта (я старшыня сельскагаспадарчай камісіі і гаспадарчага развіцця гміны Гміннай рады) і іншым радным, між іншым, Анатолю Раманчуку (ён старшыня Гміннай рады), Ірэне Максімюк (яна намеснік старшыні сельскагаспадарчай камісіі). На фэсце быў таксама і ведае пра адсутнасць войта радны Станіслаў Садоўскі.



Спяваюць „Росы” з Рыбалаў

Як жа гэта так запрасіць людзей на культурна-забаўляльнае мерапрыемства і іх не прывітаць, не падзякаваць за прыбыццё? Што гэта цяпер парабілася з чыноўнікамі? Ужо сталі такія гордыя і пыхлівыя за дзевяць месяцаў пасля выбараў, між іншым, на пасаду войта.

Супрацоўнікаў ён ужо сам выбірае. Ці ўжо нававыбраныя забылі формулу прысягі (у ёй словы, між іншым, „przysięgam sumiennie i rzetelnie wykonywać swoje obowiązki”. Як так, то вельмі хутка. Я шматгадовы карэспандэнт „Нівы” (з 1958 года) не магу не напісаць, што зараз шматлікія жыхары Нараўчанскай гміны ўжо ў некаторых справах не згаджаюцца з тым, што робіць войт. А ён жа ім столькі наабяцаў. Час кароткі, ці мо памяць кароткая? У гміне маем сваю газету пад загалоўкам „Над Нараўкай”. У навейшым нумары змешчана інтэрв'ю з войтам, што мы, радныя, даверлівыя войту. Час пакажа як доўга. Праца войта цяжкая і адказная. Так ён сказаў.

Янка ЦЕЛУШЭЦКІ
Фота аўтара

## Адгаданка Адгаданка Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. птушыныя „вусны” = 5 _ 6 _ 2 _ 3 _ 20 _;
2. гарадскі пасёлак у Браслаўскім раёне з кляштарам = 12 _ 26 _ 27 _ 23 _;
3. Даніла, сербскі пісьменнік (1935-1989) = 11 _ 7 _ 28 _;
4. урачыстая вячэра напярэдадні Каляд = 17 _ 29 _ 21 _ 8 _ 9 _;
5. група спартыўнях каманд, што змагаюцца за першынство = 1 _ 4 _ 25 _ 18 _;
6. адзіночны або множны = 19 _ 22 _ 24 _;
7. аргенцінскі горад на Вогненнай Зямлі = 13 _ 14 _ 15 _ 16 _ 10 _.

(ш)

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | 2 | 3 | 4 |
| | | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
| 10 | 11 | | 12 | 13 | 14 | 15 |
| 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 |
| 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 27 нумара**

Дзед, каза, Кім, лой, мех, рой, „Ціш”.

Рашэнне: **Ціхім крокам далей зойдзеш**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Міхалу Байко** з Беластока.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 000 egz.

## 04.08 — 10.08

**(22.03. — 20.04.)** Выдатны настрой і форма; па нядаўніх праблемах і следу не будзе. Да 7.08. будзеш вельмі імпульсіўны, не зашкодзь сабе. Можаш дасягнуць поспеху і разумна выкарыстаць распіраючую цябе энергію На працы будзеш хуткі, паспяховы і кемлівы.

**(21.04. — 21.05.)** Тэмп жыцця хуткі, але шмат можаш здабыць. Змабілізуешся — дасягнеш мэты. 6-10.08. спраўна аформіш справы ва ўстановах і зробіш раскошныя пакупкі. Жыццё цікавейшае і больш эмацыянальнае. Бурлівыя настроі ў пары. Дапамажы блізкім. На рабоце дзяліся сваімі ведамі; будзеш весці абучэнні маладзейшых калег. Актыўна праводзь вольны час.

**(22.05. — 22.06.)** 5-9.08. атрымаеш вылучэнне або ўзнагароду. Заззяеш кемлівасцю. Адкрыеш жылку да інтарэсаў і заробіш мноства (увесь жнівень вельмі добры ў гэтым плане). Мноства часу на флірты, рандэву і прыемнасці. На працы дакладна чытай дамовы. Сядзь на лягчэйшую дыету.

**(23.06. — 23.07.)** Можаш шмат зрабіць і значна наблізіцца да мэты. Але не абыдзецца без дробных перашкод. Адвага і перакрочванне ўласных абмежаванняў. Сям'я і сябры будуць з табой больш лічыцца. У фірме неспадзеўкі. Але не бойся канкурэнцыі — не кіне табе калод пад ногі. Хаця 6-10.08. упоперак тваім планам могуць стаць фармальныя або тэхнічныя справы. Асцярожна з сонцам!

**(24.07. — 23.08.)** У жніўні ты абраннік зорак! Спадзявайся ўсмешкі Фартуны. Толькі глядзі, каб сам сабе не зашкодзіць. 6-10.08. можаш штосьці «заваліць» на працы. Пары без шлюбу 6-10.08. схочуць фармалізаваць адносіны. У сям'і і сярод сяброў поўная згода. У фірме шанцы паказаць свае таленты і ўмеласці, але не ідзі да поспеху «па трупах». 6-10.08. шанц зарабіць дадатковыя грошы на тым, што любіш і ўмееш рабіць. Глядзі пад ногі — у жніўні пагражаюць кантузіі, асабліва народжаным у III дэкадзе.

**(24.08. — 23.09.)** Негатыўныя сцэнарыі замяні добрымі. Не бярыся за заданні, патрабуючыя высілку і баявітасці. Можаш затое снаваць смелыя планы, але на іх спыніся, прынамсі да дня народзінаў. Калі шэф адкіне твой праект, не перажывай — кожнаму можа прытрапіцца памылка, і на ёй варта вучыцца; шэфа не крытыкуй. У адпачынку нічога сабе не адмаўляй. План на I і II дэкады: высыпацца, адпачываць і пазбягаць стрэсавых сітуацый.

**(24.09. — 23.10.)** Вернуцца вера ў сябе, добры настрой, і лягчэй пойдзе табе ва ўсіх сферах жыцця. 6-10.08. купіш сабе штосьці, аб чым здаўна марыў. Але з 9.08. хтосьці схоча злоўжываць тваім даверам і выкарыстаць тваю слабасць. З даверам глянь у будучыню. 6-10.08. здзейсняцца твае найбольш скрытыя мары, асабліва калі хочаш стаць перад алтаром. Да самотных Дзеваў — чарга аматараў! Серыя імпрэз, сустрэч, шмат знаёмстваў. На працы поспех любым спосабам не будзе цябе цікавіць у жніўні. Шмат асоб перацягнеш на свой бок. Пахудзееш і папрыгажэеш.

**(24.10. — 22.11.)** Забудзь аб спакоі. Але затое парвеш з руцінай і будзеш рашаць аб сабе. Масавы абстрэл зорак, але будзеш трывалы і пастравіш на сваім. Магчымыя скандалы сярод блізкіх, але не грохай дзвярыма, няхай ападуць эмоцыі. 4-8.08. можаш сапраўды выбухнуць. На працы, калі цябе не цэняць, можаш яе кінуць (магчыма асабліва ў Скарпіёнаў з I дэкады) — але лепш зацісні зубы і паціху шукай іншай пасады. Трэніруй тое, што прыносіць добрыя вынікі.

**(23.11. — 22.12.)** Вызначыш новыя, адлеглыя мэты, не толькі на карце. Фінансавыя праблемы адыдуць у нябыт. 7-11.08. будзеш марудны і злосны без прычыны. Прыцягнеш файную кампанію і натхненне новымі задумамі. Многа энергіі, «люзу», усмешкі. 5-9.08. можаш схацець легалізаваць свае адносіны. Пакарыстайся цікавымі запросінамі, наладзіш многа інспіруючых знаёмстваў. Будзеш дацэнены ў прафесіі. Будзеш здаровы, не пабаішся вірусаў. 6-10.08. выдатна ў лячэбных і касметалагічных працэдурах.

**(23.12. — 20.01.)** Больш абавязкаў, будзеш працаваць за двух і добра на гэтым выйдзеш. Чакаюць цябе павышэнне і немалая каса. У пары стагнацыя. Не вельмі спакушаць цябе будуць імпрэзы. На працы забудзь пра калектыўную дзейнасць, змагайся сам за сваё.

**(21.01. — 19.02.)** У жніўні поспехі на ўсіх палях. Прызнанне, сімпатыя. 6-10.08. вельмі пашчасліцца табе ў фінансах; шчасце ў конкурсах, выйгрышах — асабліва ў Вадалеяў з пералому II і III дэкады. Хапай нагоды і не бойся рызыкаваць. 5-9.08. выйгрышы ў судзе, карысна ва ўстановах. Дакажаш, што можаш шмат, павысіш кваліфікацыі. 9-10.08. не ляпні чаго ў кампаніі. 6-10.08. — новы знаёмы можа ў тваім жыцці застацца на даўжэй.

**(20.02. — 21.03.)** Спакайнейшы час. Задбай аб свой выгляд і агарні розныя справы. Можаш быць разгублены і не ведаць чаго хочаш. Цяжэй чуць голас інтуіцыі, але яна цябе не пакінула. Больш абавязкаў дома. На працы не пераймайся, пачакай да апошняй дэкады. Пухнуць ногі — зашмат вады ў арганізме, ды... пі яе больш. Больш варушыся, не сядай на рэстрыкцыйную дыету; еж больш свежай гароднiны і садавіны.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**




# XII Падляшская актава культур

У днях 24-28 ліпеня адбыўся на Беласточчыне XII выпуск Падляшскай актавы культур. У мерапрыемстве, якое завітала ў больш чым трыццаць мясцовасцей ваяводства, удзельнічалі дзясяткі выканаўчых калектываў, соткі артыстаў і тысячы гледачоў. Мастакоў прымалі мясцовасці раскіданыя па ўсім ваяводстве, м.інш. Белавежа, Монькі, Замбраў, Гайнаўка, Каліноўка-Касцельная, Орля, Пянтніца, Заблудаў, Бельск-Падляшскі, Гарадок, Чыжаў, Чорная-Беластоцкая, Крыпна, Кляшчэлі, Нараўка, Новінка, Саколе, Сухаволя, Сувалкі, Шапятова, Ганёндз, Граева, Гадышэва, Забелле, Карыцін, Пагарэлкі, Пуньск, Райград, Сямятычы, Сычы, Шчучын, Васількаў і Беласток. У мерапрыемстве ўдзельнічалі выканаўцы з розных краін Еўропы і Ізраіля. Актава абазначае восем суб'ектаў, а гэтымі суб'ектамі, па задуме арганізатара мерапрыемства — Ваяводскага асяродка анімацыі культуры, мелі быць тыя культуры, якія былі прысутны цягам стагоддзяў на нашай тэрыторыі. У іх ліку былі і прадстаўнікі беларускай культуры: дзіцячы вакальна-танцавальны калектыў «Падляшскі вянок» з Беластока, ансамбль народнай музыкі «Купалінка» з Мінска ды аркестр народных інструментаў з Ліды, што на Гродзеншчыне.

«Падляшскі вянок» паказаў м.інш. танец падыспан, вакальна-танцавальную кампазіцыю «Слуцкія ткачыхі» ды станцаваў «Лявоніху». Выдатна выступілі нашы наймалодшыя артысты, з задорам выканалі яны ўсе пункты сваёй праграмы, за што і былі ўзнагароджаны публікай багатымі апладысментамі.

«Купалінка» вядомая на Беласточчыне здаўна. У яе рэпертуары папулярная беларуская народная музыка. Захапляла дынаміка і ўсебаковая таленавітасць мінскіх гасцей. Яны ўніверсальныя мастакі: і вакалісты, і інструменталісты, і танцоры адначасна. Вядома, што і яны захапілі сэрцы беластоцкай публікі.

Аркестр народных інструментаў з Ліды таксама неардынарны. У прынцыпе калектыў выконвае інструментальную музыку, уключаючы ў сваю праграму і вакальныя нумары. У Беластоку Алена Цалько заспявала «Жураўлі на Палессе ляцяць» на словы Алеся Ставера.

Яшчэ да адмысловай танцавальнай вечарыны ў беластоцкім клубе «Змена клімату» падыгрывала Капэла гарадзенскіх дворыкаў.

«Падляшскі вянок» выступіў у Беластоку і Шапятове, «Купалінка» ў Моньках, Беластоку, Орлі, Гарадку і Шчучыне, а лідскі аркестр у Беластоку, Чыжаве і Гадышэве.

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**



Падляшскі ваявода Багдан Пашкоўскі адкрывае сёлетнюю Актаву



На сцэне «Падляшскі вянок»



Юлія Баравік спявае «Слуцкія ткачыхі»



На сцэне «Купалінка»

ISSN 0546-1960